

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735
BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455
№513 Кастрычнік 2005г. Год выданьня 55

## Акцыя з нагоды прыезду Лукашэнкі ў ААН

Усярэдзіне верасьня ў Нью Ёрку праходзіў Сусьветны Саміт-2005, сустрэча на вышэйшым узроўні лідараў краінаў сьвету, на які прыбыў таксама кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка, які знаходзіцца пры ўладзе праз незаконныя зьмены Канстытуцыі й фальшаваньне вынікаў выбараў.

Беручы пад увагу незаконнасьць прэзыдэнцтва Лукашэнкі, а таксама тое, што гэты апошні дыктатар Эўропы арганізаваў этнацыд беларускага народу і зьяўляецца дзяржаўным здраднікам, які ўжо 11 год гандлюе назалежнасьцю Беларусі пад маркаю "інтэграцыі" з Расеяй і бескантрольна круціць народнымі сродкамі, сваім памерам блізкімі да бюджэту краіны – Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне правяло 14 верасьня 2005 г. акцыю пратэсту.

Сабраўшыся каля будынку Публічнай бібліятэкі на 42-й вуліцы, удзельнікі акцыі з разгорнутымі сьцягамі й плякатамі рушылі да Даг Хамаршэлд Плаза пры Другой Авэню і 47-й вуліцы. Па дарозе мінакам, сярод якіх раз-пораз траплялiся і беларусы, раздаваліся ўлёткі.

На Даг Хамаршэлд Плаза сп. Віталь Зайка выступіў з кароткай прамовай пра мэты акцыі. Удзельнікі акцыі каля Першай Авэню выставілі плякаты з пратэстам супраць Лукашэнкі. У акцыі таксама прынялі ўдзел прадстаўнікі гэбрайскіх арганізацыяў у Беларусі, у тым ліку старшыня Сусьветнай асацыяцыі беларускіх гэбраяў сп. Якаў Гутман. Прадстаўнікі мэдыяў бралі інтэрвію ва ўдзельнікаў акцыі, распаўсюджваліся ўлёткі з мэтамі акцыі. Гучэлі лёзунгі супраць дыктатуры Лукашэнкі і ў падтрымку незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

**Віталь ЗАЙКА**




## Вальжына Морт у Нью Ёрку

У Нью Ёрку 25 і 26 верасьня прайшлі чытаньні паэзіі з удзелам маладой, але прызнанай беларускай паэткі Вальжыны Морт. Вальжына — талент моцны і шчыры. Друкавацца яна пачала ўжо даволі даўно, сёлета выйшаў у Менску асобны зборнік ейных вершаў пад назваю "Я тоненькая, як тваё вейкі". У розных публікацыях Вальжыну Морт называлі "скандальнай паэткай", стылізатаркай "какетлівага дзявочага суіцыду", і г. д., хоць пры гэтым заўсёды падкрэсьліваўся несумнiўны вялікі талент.



Невысокага росту, з прыемным тварам, Вальжына сваім зьнешнім выглядам кантрастуе з жорсткімі, напружанымі і часам выбуховымі радкамі сваіх вершаў. Вальжына чытала пераважна па-ангельску, але пачала свой выступ па-беларуску, вершам «Беларуская мова", які пасьля прачытала па-ангельску. Моцныя ляканічныя мэтафары гэтага, а таксама ўсіх наступных вершаў краналі да сэрца прысутных прадстаўнікоў беларускай грамады Амэрыкі, а таксама англамоўных аматараў паэзіі, якія шчыльна запоўнілі залю. Звычайна на такіх чытаньнях апляды смэнты бываюць толькі ў канцы выступу, але тут заля не стрымлівалася каб раз-пораз не падзякаваць Вальжыне пасьля чарговага вершу.

Пры знаёмстве Вальжына Морт аказалася надзвычай мілаю і прыемнаю дзяўчынаю, зь сьціплаю ўсьмешкаю і цудоўнаю беларускаю мовою. Быў навязаны кантакт з паэткай. У сярэдзіне кастрычніка Вальжына Морт выступіць са сваімі вершамі перад удзельнікамі сымпозіюму па беларускай культуры ў Гарвардзе.

**Яўген МАРОЗ**

## Беларускі Фэстываль у Брукліне

У нядзелю, 25 верасьня, пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адбыўся Беларускі Фэстываль, ладжаны парафіянамі й сястрыцтвам Сабору. Пасьля Божае службы прысутныя падсілкаваліся ў грамадзкай залі беларускімі нацыянальнымі стравамі, выпілі па кілішку віна, калегаваліся зь сябрамі, знаёміліся з гасьцямі парафіі. Гучэлі беларускія песьні, можна было патанчыць. Перад прысутнымі выступалі музыкі й сьпевакі Аляксандар Балотнік, Тацьцяна і Вольга Дзямешчык. Імпрэза праводзілася ў рамках міжнароднага кірмашу "Atlantic Antic", і мінакі-госьці кірмашу ставалі ў чаргу, каб пакаштаваць беларускіх страваў, што прадаваліся ў намёце каля Сабору. Шмат людзей заходзіла паглядзець Сабор, цікавіліся сьпевамі, нацыянальнымі строямі. Фэстываль прайшоў вельмі ўдала і весела.

Асаблівая падзяка ў падрыхтоўцы Фэстывалю належыць сябрам *Парафіяльнай рады сп.сп.* Міколу Вашкевічу, Міколу Сагановічу, Барысу Данілюку, Сяргею Капытку, Віталю Міхноўскаму, Анатолю Колбуну, Васілю Кузьменку; сяброўкам сястрыцтва спн.спн. Зоі Вашкевіч, Леаніле Сагановіч, Тацьцяне Красоўскай, а таксама парафіянам Марыі Данілюк, Ганне Войтанка, Аляксандры Лістоўскай, Кацярыне Шаўчэнка, Ларысе Пузач, Віктару Дудараву, Віталю Пузачу. Вельмі дапамаглі парафіяне з Гайланд Парку Людміла Бакуновіч, Марыя Верабей і Валеры Дворнік.

**Віталь ЗАЙКА**

# Як адносіцца да кандыдата ў прэзыдэнты ад "дэмапазыцыі"?



**Зянон ПАЗЬНЯК**

Адказ на гэтае пытаньне відавочны і просты. Людзі, якія складаюць цяпер у Беларусі так званыя "дэмакратычныя сілы" ня ёсьць нацыянальнымі сіламі. Іхняя дзейнасьць, *паняцьці і ідэі*, якія яны выказваюць, не прыводзяць да стварэньня і захаваньня нацыянальнай дзяржавы (а адпаведна – і дэмакратыі, бо дэмакратыя не існуе па-за дзяржавай і нацыяй). Таму, калі-б такія людзі прышлі да ўлады, – гэта не зьняло-б пагрозы для дзяржаўнай незалежнасьці, а толькі прысьпешыла-б захоп Беларусі Расеяй і разбурэньне беларускай культуры.

Ідэалёгія, якой кіруюцца "дэмсілы", – прымітыўная і вульгарная. Гэта ёсьць спадзяваньне на Расею, прынцып "статус-кво" і ўжо добра ведамае ў міжнародным нацыянальна-вызвольным руху "непрадрашэнства". Яе выказваюць усе "дэмсілы", пачынаючы ад расейскага генэрала Фралова і пісьменьніцы Алексіевіч да былых фронтаўцаў, што перакінуліся ў "дэмсілы".

Тут даведка. Тэхналёгія імпэрскага "непрадрашэнства" распрацаваная расейцамі яшчэ ў пэрыяд рэвалюцыйных закалатаў пачатку мінулага стагодзьдзя ў Расеі і заключаецца ў імкненьні аб'яднаць агульныя нерасейскія сілы дзеля вырашэньня расейскіх першачарговых задач, не вызначаючы ("не предрешая") вынікаў і канцовай мэты змаганьня (а дакладней – лёсу нярускіх саюзьнікаў).

Уладзіўшы свае інтарэсы за кошт іншых, пра іншых можна было забыцца (бо "не предрешали") і вярнуцца ў статус-кво. А статус-кво – гэта імпэрыя.

У 40-50-х гадох мінулага стагодзьдзя расейская эміграцыйная "дэмакратыя" хацела гэтак злучыць паняволеныя народы СССР (нацыянальную эміграцыю) на зьвяржэньне бальшавізму, "не предрешая", а што-ж будзе потым са свабодай, незалежнасьцю і народамі. Маўляў, давайце аб'ядкаемся, разам звалім бальшавікоў, а затым разьбярэмся. Зьмест і вынік гэтага "разьбіраньня" ня цяжка было прадбачыць.

"Мы злучыліся ўсе ў "пяцёрку плюс" (з камуністамі і агэпоўцамі, – *З.П.* ) – кажа публічна ў Нью-Ёрку В. Вячорка, – каб разам скінуць Лукашэнку. Пераможам, а тады ўжо будзем разьбірацца колькі каму якой дэмакратыі трэба".

"Спачатку трэба зрабіць дэмакратычную краіну, а потым ужо – добра заняцца беларускай матчынай мовай", – кажа цяпер непрадрашэнец генэрал В. Фралоў. (*Радыё "Свабода", – 9.09.2005*).

Няма розьніцы, якая мова, якая культура, галоўнае – дэмакратыя, клікуе расейская пісьменьніца С. Алексіевіч (таксама выхадзец з сям'і расейскіх вайскоўцаў). "Пакуль мы ня пусьцім дэмакратыю наперадзе мовы, мы зноў загінем", – пераконвае яна. (Хто – "мы"?) (*"Свабода", – 24.08.2005*).

Гэта тыповая пазыцыя фраловых, манаевых, іванових, пятровых, і агулам гэтых "дэмсілаў".

Другой ідэалягічнай (і цалкам праімпэрскай, прарасейскай) пазыцыяй "дэмсілаў" ёсьць "статус-кво". "Статус-кво" – гэта русыфікатарская мадэфікацыя прынцыпаў польскай "тлустай рысы" ("грубэй крэскі") і заходняй "рэальпалітык". "Дэмакраты" ад "статус-кво" прапануюць зыходзіць з рэчаіснасьці, якая ўтварылася і існуе на сёньняшні дзень у Беларусі ў выніку двух стагодзьдзяў няволі і расейскай акупацыйнай палітыкі. Гэта значыць, прыняць як зыходную пазыцыю ў нацыянальнай палітыцы тое, што большасьць беларусаў (асабліва ў гарадох) вымушаны гаварыць па-расейску ці на зьмешанай беларуска-расейскай гаворцы.

Тое, што за XX-е стагодзьдзе акупанты з усходу і захаду (расейцы і немцы) зьнішчылі шэсьць мільёнаў беларусаў, тое, што расейцы расстралялі сотні беларускіх пісьменьнікаў (бо пісалі па-беларуску), спалілі беларускія кнігі, зачынілі беларускія школы, выгналі беларускую мову з унівэрсытэтаў, расстралялі і згнаілі ў турмах беларускую інтэлігенцыю, адміністрацыю, ліквідавалі эліту нацыі, разбурылі беларускую культуру і сьвятыні, помнікі і магілы, сфальсыфікавалі нацыянальную гісторыю і так напалі безабаронны народ русыфікатарскім атрутным імпэрскім пойлам, што й "патомак яшчэ п'яны", разбурылі храмы і замкі, і цэлыя гістарычныя гарады – тое ўсё, значыцца, – не ў рахунак. Будзем, маўляў, зыходзіць з рэчаіснасьці, якая існуе (якую стварылі акупанты і нішчыцелі Беларусі). Будзем "дэмакратычнымі". Яны надзяваюць маску прагматыкаў, зьвяртаюцца да "здаровага сэнсу" і апэлююць да нацыянальнай цемры людзей, якую насаджалі 200 гадоў.

Вось што такое "дэмакратыя" ад "статус-кво" ў акупанцкай інтэрпрэтацыі. Гэта адмаўленьне ад свабоды, ад справядлівасьці, ад змаганьня, ад нацыянальнага развіцьця, гэта легітымізацыя народнай сьмерці, замацаваньне гвалту і разбурэньня.

"Яны не ўяўляюць рэальны народ, – крычаць на нас гэтыя "дэмсілы" (Алексіевіч), – ён расейскай сьвядомасьці. Адзіны рэальны палітык у беларускай прасторы – гэта Лукашэнка,.. гэты чалавек мае справу з рэальным народам, з рэальнай сытуацыяй, з рэальным часам". (*С. Алексіевіч, – радыё "Свабода" – 24.08.2005*).

"Болтун – находка для врага", – сказаў-бы генэрал-"дэмакрат" Фралоў. Але сам выказваецца яшчэ больш выразна. "Не могу согласиться с тем вялотекущим процессом интеграции, который без руля и ветрил идет уже семь или восемь лет, – жаліцца "дэмакрат". – То руководство страны готово идти на самую тесную интеграцию, то оно уже тормозит процесс и говорит о суверенитете." (*"Народная Воля", – 2005, 12.08*).

"Беларусы хочуць бачыць сябе ў эўрапейскай цывілізацыі, – разважае іншы знаўца беларусаў, новастворыны "дэмакрат" А. Казулін, – але гэта не азначае, што яны бачаць сябе па-за Расеяй". (*Радыё "Свабода", – 28.09.2005*). Куды ўжо шчырэй. У чрэве Расеі – ды ў Эўропу.

Гэта той самы Казулін, які, будучы рэктарам БДУ, выключаў беларускіх студэнтаў з унівэрсытэту за патрыятычную дзейнасьць, *а на паседжаньнях ставіў* побач з сабой перакладчыка, каб той перакладаў яму, калі нехта выступаў па-беларуску (куражился-с).

* * *

Самай адметнай і галоўнай рысай гэтай "дэмапазыцыі" і яе груповачак (што ладзяць "кангрэсы") ёсьць рабская, халуйская прывязанасьць да Масквы. Тут яны аднадушныя і ў словах, і ў справах. Яны езьдзяць туды, як на працу, дакладваюць, інфармуюць, жаляцца, просяць, паведамляюць, нават "папярэджваюць" ды няўклюдна "палохаюць".

"Калі Расея будзе і ў будучым падтрымліваць Аляксандра Лукашэнку, гэта, на вялікі жаль, прывядзе да нагнятаньня ў Беларусі антырасейскіх настрояў." Гэта кажа акадэмік А. Вайтовіч. (*Радыё "Свабода", – 20.10.2004*).

Наступствы рэфэрэндуму 2004 году "вельмі небясьпечныя", – тлумачыць іншы "дэмакрат", Васіль Лявонаў, "яны небясьпечныя тым, што калі 5 гадоў таму большасьць беларусаў былі гатовыя да інтэграцыі з Расеяй, то цяпер большасьць насельніцтва нэгатыўна ставіцца да гэтай пэрспэктывы". (*"Свабода", – 20.10.2004*).

(Маўляў, – трывога, расейцы, рабіце высновы!)

Але гэта ўсё "дэмакраты" зь "біяграфіяй". Ёсьць іншыя дэмакраты, таксама дзейныя камуністы ў мінулым, але шчырыя, сьведамыя, яны за мову і Беларусь, паэты, разумныя быццам-бы людзі. Аднак гавораць тое-ж самае.

Генадзь Бураўкін: "Я-ж ня думаю, што ў нас будуць разрывацца з-за нейкіх канфліктаў адносіны з Расеяй – гэта сапраўды гістарычна немагчыма... Чалавек, які будзе прадстаўляць найвышэйшую ўладу Расеі, для чаго ён едзе? (Гэта пра Аяцкава – З. П.). Для таго, каб умацоўваць нашыя адносіны, альбо для таго, каб агітаваць нас разбурыць нашу дзяржаву, а тым самым – і саюз?" (*"Свабода", – 13. 08. 2005*).

Ну і ну! За антыпраўны лукашысцкі "саюз", аказываецца, пераджывае. Марны лёс беларускіх нацыянал-камуністаў.

Вынішчалі іх цэлымі партыямі (КПЗБ), цэлымі раёнамі, а яны ўсё на Маскву глядзяць. Нічога не дапамагло: ні сьмерць, ні ссылка, ні турма. Усё пнуцца маскоўца абдурыць (дэманструюць ляяльнасьць). Але абдурваюць толькі сябе.

* * *

Ужо даўно не сакрэт (публічна засьведчылі нават кагэбісты), што ўсе так званыя "дэмпартыі" (акрама сацыял-дэмакратычнай М. Ткачова) былі створаныя ў Беларусі пры непасрэдным удзеле КГБ супраць Беларускага Народнага Фронту.

У 1998-1999 гг. пры супольных дзеяньнях КГБ і нямецкай разьведкі (Ганс Вік), ізноў-жа супраць Беларускага Народнага Фронту, з гэтых партыяў была створаная аб'яднаная "апазыцыя" на ідэалёгіі і прынцыпах, агульнай дэмакратыі (ці дэмакратыі наогул).

Пазьней Ганс Вік пакрыўдзіўся *за здраду на Лукашэнку* (апошні пасьля зробленыя справы выставіў Віка каленам зь Беларусі) і публічна расказаў у друку пра сваё супрацоўніцтва з КГБ і пра сродкі, затрачаныя на стварэньне прамаскоўскай дэмапазыцыі і на раскол БНФ.

"Забойная" інфармацыя Віка, роўная па сіле атамнаму выбуху, ня выклікала ніякага зруху ў падлукашысцкім грамадзтве, засталася нават не заўважанай. Гэтаму ёсьць свае прычыны і сваё тлумачэньне. Але факт застаецца фактам: ня толькі па сваёй ідэалёгіі, дзеяньнях і справах, але і па сутнасьці арганізацыі і ўтварэньня, "дэмсілы" (ці "дэмапазыцыя") ня ёсьць зьвяай ні нацыянальнай, ні дэмакратычнай, ні самастойнай. Яна пасіўна (а часьцей агрэсіўна) накіраваная якраз супраць нацыянальнага руху і нацыянальнай будучыні Беларусі. Яна цалкам кантралюемая і залежная ад чужых палітычных сілаў, што змагаюцца зь беларускай культурай, дзяржаўнасьцю і незалежнасьцю. Дэмакратычная "апазыцыя" – прылада ў іхных руках.

Цяпер "апазыцыянэры" з Масквы амаль не вылазяць. 28 верасьня (перад дэмкангрэсам) удзельнічалі там у сумеснай канфэрэнцыі з адыёзнымі асобамі (тыпу Б. Нямцова), які раней публічна зьняважаў нашу краіну гнюснымі словамі (і "Народная Воля" гэта друкавала).

С. Калякін, В. Лявонаў, Я. Раманчук, А. Лябедзька, А. Дабравольскі, А. Ярашук, С. Гайдукевіч, С. Шушкевіч, А. Мілінкевіч, В. Арэшка абмяркоўвалі з маскоўцамі сумесныя дзеяньні. Расейцы паабяцалі "магчымасьці і рэсурсы" для адзінага кандыдата. Усе ўжо цяпер вядомыя "адзіныя кандыдаты" ад дэмсілаў і ў Маскве ўзгодненыя, і паабяцана, што будуць падтрыманыя.

Б. Нямцоў запэўніў, што ён "як палітык выкарыстае свае асабістыя рэсурсы, патэнцыял дзеля таго, каб адзіны кандыдат меў камунікацыі і ў Расеі, каб яго зразумеў расейскі бок, уключна і ўладныя структуры" (!). (*"Свабода", – 28.09.2005*).

Другая група "апазыцыянэраў" (В. Фралоў, М. Багдановіч, Л. Марголін, К. Коктыш, С. Казлоўскі і інш.) паехала на агледзіны ў "РИА Новости". Пасьля агледзінаў маскоўцы грэбліва напісалі зьедлівую інфармацыю пра ўсё, што ўбачылі і пачулі.

"Беларуская дэмакратычная апазыцыя аб'явіла на сябе конкурс, – пацяшаюцца маскоўцы, – кандыдаты заявілі пра сябе ў Маскве. Паколькі адзінага кандыдата беларуская апазыцыя актывісты выявіць сярод сябе не спадзяюцца, выбар прапанавана зрабіць Расеі, ад якой, перакананыя апазыцыянэры, у многім будзе залежыць вынік будучай кампаніі." (*"Взгляд". – 28.09.2005,*)

Маскоўцы адкрыта зьдзекаваліся з гэтых халуёў: "Прэзентацыя" апазыцыянэраў адбылася ў сераду, – пішуць яны, – на мерапрыемства, як адразу патлумачыў мадэратар, расейскі экспэрт Міхаіл Малюцін, – былі запрошаныя "только интеллектуально вменяемые и нравственно безупречные оппозиционеры".

На сустрэчы "апазыцыянэры" (М. Багдановіч, В. Фралоў) пачалі жаліцца і расказваць маскоўцам пра свае беды і цяжкасьці, што, маўляў, апазыцыя "безалаберная", ня хочуць займацца руціннай працай, не разносяць лістоўкі, нічога ня робяць і г. д. Тады выступіў дацэнт Кірыла Коктыш і кажа: "Если сегодня Россия не повлияет на ситуацию, то рискует получить атомизированное, недружественное по отношению к себе пространство".

Чамусьці ўспомнілася тут расейская блатная песенька з 30-х гадоў:

*Милый, купи мне шляпу,*
*В этой мне стыдно ходить.*
*Если не купишь – заплачу*
*И перестану любить.*

Спалохаліся маскоўцы "пространства", сядзяць, слухаюць. Аж тут выступае вялікі апазыцыянэр С. Казлоўскі і кажа гэтак просьценька ды па-свойску: "В Белоруссии на сегодня очень плохо с субъектами переговоров (грызуцца, значыцца). Если оппозиции не удастся договориться о едином кандидате – противнике действующему президенту, России нужно самой выбрать понравившегося ей оппозиционера и, "поставив" на него, помочь ему победить".

– Чаго хочаце, – спыталі тады "апазыцыянэраў" маскоўцы, – расейскага паліттэхналягічнага дэсанту ў Беларусь, як было на Украіне, ці, можа, фінансавай дапамогі?

– Мы дакладна яшчэ ня ведаем, чаго чакаць, – сказалі сьціпла "апазыцыянэры", "взор потупя". – Вось заўтра ў нас сустрэча ў гэтакім-жа фармаце з палітолягамі. Паглядзім, да чаго там удасца дамовіцца. (*"Взгляд". – 28.09.2005,*).

Калісьці за часы СССР усе сьмяяліся, як камуністычна-партыйная намэнклатура езьдзіла зь Менска ў Маскву кланяцца расейскаму начальству. Але аказываецца існуе асобная катэгорыя людзей халуйскай мэнтальнасьці. Ці там рабства, ці свабода – на жывасе папаўзуць, знойдуць сабе "гаспадзіна". Не адчуваюць ні пагарды, ні зьдзеку, ня маюць ні крупінкі гонару за сваю нацыю, за краіну, і ніякай годнасьці чалавечай.

**Заканчэньне на бач. 16**

# Беларусь за месяц

## Алесь Мілінкевіч: «Я пайду да канца»

1-2 кастрычніка ў Менску, у Палацы культуры Менскага аўтамабільнага заводу, прайшоў Нацыянальны кангрэс дэмакратычных сілаў. Зьезд, у якім узялі ўдзел больш за 800 дэлегатаў, што прадстаўлялі палітычныя партыі й недзяржаўныя арганізацыі, мусіў быў абраць адзінага кандыдата ад аб'яднанай апазыцыі на прэзыдэнцкіх выбарах.

У "праймэрыз" меркаваўся ўдзел чатырох кандыдатаў — кандыдата ад БНФ і Беларускай партыі "зялёных" Аляксандра Мілінкевіча, старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, першага сакратара Партыі камуністаў Беларусі Сяргея Калякіна, старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Станіслава Шушкевіча. Апошні зьняў сваю кандыдатуру. У другім туры перамог Мілінкевіч, за якога прагаласавалі 399 дэлегатаў, за Лябедзьку — 391.

У заключным выступе Алесь Мілінкевіч заявіў: "Я сьвята веру ў перамогу. Я фізык і ведаю, што кожная зьява мае розныя складнікі, і калі адзін зь іх заваліцца, гэта перашкодзіць агульнай справе. Я пайду да канца, я вытрымаю, не сыду з дыстанцыі. Я пайду з вамі на плошчу".

***Аляксандар Мілінкевіч.*** *Нарадзіўся 25 ліпеня 1947 году ў Горадні ў настаўніцкай сям'і. Чэмпіён Беларусі па баскетболу (1969). Кандыдат фізыка-матэматычных навук, тэма дысэртацыі: "Мэханізм генэрацыі звышмагутных лазэрных імпульсаў". Працаваў загадчыкам катэдры ў Сэтыфскім унівэрсытэце ў Алжыры, стажыраваўся ў Францыі і Каліфорніі, у 1984—1990 — дацэнт Гарадзенскага ўнівэрсытэта. У 1990—1995 — намесьнік старшыні гарвыканкаму Горадні, курыраваў пытаньні культуры, навукі, спорту, быў прэзыдэнтам шматразовага чэмпіёна Беларусі клюбу "Горадня-93". З 1998 па 2003 — кіраўнік недзяржаўнай грамадзкай арганізацыі "Ратуша", Беларускай асацыяцыі рэсурсавых цэнтраў. У 2001 годзе быў кіраўніком перадвыбарчага штабу кандыдата на пасаду прэзыдэнта Сямёна Домаша.*

*Краязнаўца. Знайшоў у Воўчыне (Камянецкі раён) пахаваньне апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, адрэстаўраваў найстаражытнейшы ў Эўропе гарадзенскі вежавы гадзіньнік.*

## Выбухі ў Віцебску

Увечары 22 верасьня ў Віцебску, на адной з цэнтральных вуліц гораду на імправізаванай дыскатэцы, прагрымеў выбух. Раненьні рознай ступені цяжкасьці атрымалі сорак чалавек. Першы падобны выбух (тады узарвалася бляшанка, начыненая цьвікамі) адбыўся 14 верасьня, і пацярпелі два чалавекі. У абласны цэнтар апэратыўна прыехалі сьледчыя Міністэрства ўнутраных справаў, намесьнік генпракурора, намесьнік старшыні КДБ, і ўжо на наступны дзень, 23 верасьня, былі затрыманыя першыя падазраваныя. Паводле слоў сьледчых, здарэньне — вынік разборкі паміж моладзевымі групоўкамі, выбуховае прыстасаваньне было самаробным.

## У чаканьні шоку

21 верасьня Беларусь наведалі экспэрты Міжнароднага валютнага фонду. Чыноўнік эўрапейскага дэпартамэнту МВФ Балаж Хорват, пахваліўшы рост беларускай эканомікі й валавога нутранага прадукту, папярэдзіў, што для краіны шокам можа быць магчымае выраўноўваньне цэнаў на нафту. Адным са складнікаў айчыннага эканамічнага цуду ёсьць розьніца коштаў паміж таннай расейскай нафтай і экспартам нафтапрадуктаў зь Беларусі. Паводле сп. Хорвата, цэны на нафту будуць расьці, у тым ліку ў Расеі, і зь цягам часу дасягнуць сусьветнага ўзроўню, што будзе мець нэгатыўныя наступствы для Беларусі.

## Галаванаў разбушаваўся

20 верасьня міністар юстыцыі Віктар Галаванаў падпісаў дакумэнт, у якім гаворыцца: "пры правядзеньні мерапрыемстваў палітычнага характару магчыма ... стварэньне тых, ці іншых рухаў, ініцыятываў... Цяпер дзейнасьць такіх аб'яднаньняў магчыма толькі пасьля іх дзяржаўнай рэгістрацыі". Такім чынам зараз амаль немагчыма заснаваць наогул ніякага дэмакратычнага руху ці кааліцыі, як раней паступалі грамадзкія дзеячы і палітыкі, што не маглі зарэгістраваць партыі. 23 верасьня на прэс-канфэрэнцыі скліканай з гэтай нагоды сп. Галаванаў заявіў, што новая пастанова адпавядае патрабаваньням Канстытуцыі, у якой утрымліваецца забарона на дзейнасьць незарэгістраваных арганізацыяў.

## Анулявалі ліцэнзіі

Міністэрства спорту й турызму анулявала ліцэнзіі на займаньне турыстычнай дзейнасьцю 104 юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам. Турфірмы ня выканалі ўмоваў, агавораных у пастанове Савета міністраў. Паводле дакумэнта, ліцэнзія можа быць атрымана толькі пры наяўнасьці пагадненьня аб прыёме замежных турыстаў у Рэспубліцы Беларусь. "Абавязковая арганізацыя ўязнога турызму" цяпер зьяўляецца умовай ажыцьцяўленьня турапэратарскай дзейнасьці. Летась Беларусь наведалі 72 тыс. чалавек.

## Пэнсіянераў паболела

Да 2020 году ў Беларусі колькасьць пэнсіянэраў дасягне 28%. Такія ацэнкі Міністэрства працы і сацыяльнай забясьпечанасьці. Цяпер у краіне кожны чацьверты жыхар — пэнсіянер (у горадзе кожны пяты, на вёсцы — кожны трэці). У Беларусі пражывае 122 тыс. адзінокіх і больш 530 тыс. адзінокапражываючых грамадзянаў (без апекі дзяцей і сваякоў). На 1 ліпеня 803 чалавекі дасягнулі ўзросту 100 і больш гадоў.

У краіне дзейнічаюць 22 дамы-інтэрнаты агульнага тыпу для састарэлых людзей і інвалідаў і 38 дамоў-інтэрнатаў псыханэўралягічнага профілю.

## Мэталюргам найлепш

У мінулым нумары "Беларуса" прыводзіліся зьвесткі пра заробкі ў Менску. Цяпер — пра ўсю краіну. Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі, на прамысловых прадпрыемствах сярэдні заробак складае 528 тыс. рублёў (ці 245,6 амэрыканскага даляра). Найвышэйшы ўзровень аплаты працы — на прадпрыемствах чорнай мэталюргіі — 1 млн 107 тыс. руб. ($514), у хімічнай прамысловасьці — 757 тыс. ($352). На тэкстыльных прадпрыемствах сярэдні заробак складае $143, шклозаводах —$202.

Чыгуначнікі зарабляюць у сярэднім $296, будаўнікі — $284, лясьнікі — $217. Сярэдні заробак калгасьнікаў $143, але тут варта памятаць, што гэта — гарачая пара году, узімку — заробак значна меншы. Сярэдні заробак доктара — $204, настаўніка — $222. У бюджэтнай сфэры сярэдняя зарплата склала $209.

## Адмянілі канцэрт NRM

За гадзіну да пачатку канцэрту гурта NRM у менскай інтэрнэт-кавярні "Саюзанлайн" (28 верасьня) яго адмянілі. Прычына — адсутнасьць вады ў гідрантах. Гэта ўжо ня першы канцэрт NRM і іншых беларускіх рок-гуртоў, што з надуманых прычынаў адмяняецца.

## Новы кіраўнік

Пры канцы верасьня ў Менску прайшоў агульны сход пісьменьніцкай арганізацыі Беларускі ПЭН-цэнтар, у якім бралі ўдзел дэлегаты з розных куткоў краіны. Старшыня арганізацыі Лявон Баршчэўскі пайшоў у адстаўку, спаслаўшыся на асабістыя творчыя пляны. Новым старшынём ПЭНу большасьцю галасоў абралі паэта Уладзімера Някляева.

## Новы нумар БГА

У жніўні зьявіўся сьвежы нумар (Том 11, сшытак 1—2 (20—21), сьнежань 2004) часопісу "Беларускі гістарычны агляд", выдаваны звольненым зь Інстытуту гісторыі Генадзем Сагановічам. У гэтым нумары — артыкулы Г. Сагановіча "Русіны пад Грунвальдам", Расьціслава Баравога "Менск у XVI ст. Першы генэральны плян гораду і яго магчымы аўтар", Валянціна Калніна "Зорны шлях Яна Марыі Бэрнардоні", Кшыштафа Касажэцкага "Бітва пад Палонкай 28 чэрвеня 1660 г., Ірэны Кадульскай "Формы тэатральнага жыцьця ў полацкай акадэміі (1812—1860)". Друкуецца першы разьдзел кнігі Юрыя Туронка з Варшавы пра дзейнасьць Саюзу беларускай моладзі ў Нямеччыне. Гэты разьдзел прысьвечаны заснаваньню СБМ.

Традыцыйнымі для "Беларускага гістарычнага агляду" сталі рубрыкі "гістарыяграфія", "пераклады", "новая літаратура".

## Казкі жыцьця-3

Эўропа нам не патрэбная, заявіў беларускі прэзыдэнт на XXXIX зьезьдзе Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі (Лукашэнкаюгенду). Зьезд адбыўся 23 верасьня ў Менску.

Кіраўнік дзяржавы сьцьвярджае, што як толькі ўсходнеэўрапейскія дзяржавы ўвайшлі ў Эўразьвяз, там пайшлі працэсы, якіх не прынялі іх народы. "Калі-б мы далучыліся да гэтага эўрапейскага працэсу, зараз мелі-б тое, што Прыбалтыка, іншыя дзяржавы... ужо сёньня ў Эўропе парушаюцца правы чалавека, у прыватнасьці, правa на перамяшчэньне". Напрыклад, палякаў, па словах Лукашэнкі, не пускаюць дзеля працаўладкаваньня ў Нямеччыну й Францыю. "Яны сталі людзьмі другога гатунку", — з болем за лёс іншых народаў канстатуе беларускі прэзыдэнт. "Вось што было-б, каб дзесяць гадоў таму мы кінуліся ў Эўропу", — рэзюмаваў беларускі прэзыдэнт.

## Бітва пры Таронта

Зборная Беларусі па тэнісу (Уладзімер Ваўчкоў і Максім Мірны) трапілі ў асноўную групу Кубку Дэвіса. 23-25 верасьня ў Таронта яны не без цяжкасьцяў абыгралі зборную Канады зь лікам 3:2. Супернікам беларусаў па 1/8 фіналу будзе супэрзборная зборная Гішпаніі: у двацатку наймацнейшых тэнісістаў сьвету ўваходзяць Рафаэль Надаль, Томі Рабрэда, Карляс Мойя, Хуан Карляс Фэрэр. Праўда, апанэнты беларусаў моцныя на грунце, а матч, што пройдзе 10-12 лютага ў Менску, будзе гуляцца на хуткім пакрыцьці — каньку беларусаў.

***Уласны карэспандэнт***

# Зь Беларусьсю й для Беларусі

## Гутарка з старшынём Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва доктарам Вітаўтам Кіпелем з нагоды 50-ці годзьдзя ягонага жыцьця ў ЗША

***"Беларус"***: Спадар Вітаўт, Вы неаднаразова зазначалі, што сёлета – 50 год ад часу Вашага прыезду ў ЗША. Бясспрэчна, адцінак жыцьцёвага шляху немалы, і чытачу "Беларуса" будзе цікава азнаёміцца зь "беларускім" зьместам гэтага пэрыяду Вашага жыцьця. Але напачатку хацеў-бы зацытаваць колькі радкоў з кнігі Радзіма Гарэцкага "Вечна жыве Беларусь!": "У лёсе Вітаўта Кіпеля і маім ёсьць многа агульнага. Нарадзіліся ў Менску. Бацькі – "нацдэмы" з Інбелкульту – арыштаваныя ў 1930 г., а пазьней высланыя ў Расею, куды ў хуткім часе пераехалі і іх сем'і. У вайну – эвакуацыя, але Вітаўт у Арле трапіў пад акупацыю, а я быў далей – ва Ўдмурціі. Вось тут напрамкі нашых рухаў разышліся: Вітаўт трапіў у Менск і далей на Захад, а я на Ўсход – на Ўрал. Пасьля вайны ён у Бэльгіі стася геолягам, а я ў Расеі таксама атрымаў спэцыяльнасьць геоляга. Вітаўт у ЗША захапіўся праблемамі нацыянальнага адраджэньня Бацькаўшчыны, зацікавіўся культурнай і літаратурнай, грамадзкай дзейнасьцю, нават стаў дырэктарам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, а я значна пазьней, ужо па вяртаньні ў Менск у самым канцы 1971 г., таксама адчуў схільнасьць да такіх-жа пытаньняў. І вось мы абодва сядзім побач у прэзыдыюме Міжнароднай навуковай канфэрэнцыі "Рым-IV", прысьвечанай культурнаму памежжу Беларусі, Летувы, Польшчы і Ўкраіны, дзе сустрэліся ўпершыню, хаця й чулі адзін пра аднаго раней. Амаль аднačасова гаворым: "Як добра сядзім разам, нам пашанцавала, а вось бацькі нашыя сядзелі значна горш..".

То "лічбава" Вашая біяграфія выглядае наступным чынам: у Беларусі Вы пражылі ўсяго сем гадоў: 1927-1932 і 1942-1944. У Заходняй Нямеччыне - 5 гадоў, ад 1944 да 1949, у Бэльгіі – ад 1949 да 1955, і ад таго часу жывяце ў ЗША. 7 з 78! І тым ня менш, як Вы кажаце, усё жыцьцё зь Беларусьсю не расставаліся: вывучалі яе, пашыралі пра яе зьвесткі, адным словам, былі зь Беларусьсю.

Сп. Вітаўт, давайце пачнем размову з 50 "амэрыканскіх" гадоў.

***В. Кіпель***: Я прыляцеў у ЗША 22 сьнежня 1955 г. У аэрапорт Айдлвайд у Нью Ёрку (цяпер завецца Кенэды) з Бэльгіі самалётам лініі Flying Tigers. Рэйс трываў 20 гадзінаў, а самалёт не ацяпляўся. Усе мае рэчы былі ў плецаку. Грошай ня было ні цэнту. Але, як казаў паэт, "не без добрых душ на сьвеце". У самалёце я спаткаў майго даўгагадовага сябру Алеся Міцкевіча, які таксама перабіраўся ў ЗША на сталае жыцьцё й які меў пару капеек. Дык ён мне на "разжыўку" і пазычыў сто даляраў. Я за гэта Алесю быў і ёсьць вельмі ўдзячны, а саму пазыку прыблізна за год сплаціў.

Што я пакідаў за сабою? Слоў няма, ехаць на Бацькаўшчыну хацелася, але савецкае заканадаўства было такое – побыт і навука за мяжою ўважаліся праступствам, і за гэта "давалася" ад 10 да 25 гадоў. Мая-ж справа ўскладнялася й тым, што перад вайною сям'я была высланая з БССР. Таму размовы пра вяртаньне ў Беларусь быць не магло.

Скончыўшы і абараніўшы дактарат з мінэралёгіі ў Лювэнскім унівэрсытэце, бэльгійская мэталюргічная кампанія Union Miner запрапанавала мне пасаду геоляга ў Бэльгійскім Конго. Іншая кампанія, таксама ў Бэльгіі, Petrofina (нафтавая), запрапанавала паехаць на год на стыпэндыю ў Парыж, у Інстытут Нафты, каб потым ехаць на тры гады ў Францускі Габон. У абоіх выпадках зарплаты былі проста астранамічныя. Але абедзьве прапановы я, параіўшыся з Зораю, тады яшчэ маёю нявестаю, адхіліў, бо плянавалі сваё жыцьцё весьці зь беларускаю грамадою. Амэрыка, бадай, была найбольш спрыяльнаю краінаю для далейшага жыцьця.

На жыцьцёвы шлях ў ЗША гляджу з гэткіх пэрпэсктываў: асабістае жыцьцё, дасьледча-навуковая праца і дзейнасьць грамадзка-палітычная.

Як пайшло-прайшло жыцьцё асабістае. Маім першым крокам у ЗША ў 1955 годзе было зарэгістравацца ў ваенкамаце – так сказалі ў часе іміграцыі. Аднак на ваенным пункце мне паведамілі, што абавязковая рэгістрацыя толькі да 28 гадоў, а мой год ужо мінуў. Наступным крокам было зладзіць вясельле: так мы даўно вырашылі з Зорай; сябравалі, плянавалі сумеснае жыцьцё праз усе студэнцкія гады, а пазнаёміліся ў Менску ў 1943 г. Вясельле нашае адбылося ў Пасэйку, дзе мы нейкі час жылі, а вянчаў нас а. М. Лапіцкі – добры й блізкі знаёмы нашых сем'яў.

Далей ішла праца: я нейкі час працаваў геолягам, Зора – у крысталяграфічнай лябараторыі над даведнікам "Crystal Data". Калі нарадзіліся дзеці, Алеся і Юрка, перабраліся бліжэй да беларускае грамады. Перамянілі прафэсьі, скончыўшы бібліятэчны факультэт унівэрсытэту Rutgers у штаце Нью Джэрзі. Шмат увагі аддавалі выхаваньню дзяцей. Каля 10 гадоў штосуботы й штонядзелі езьдзілі ў беларускую царкву ў Брукліне, дзе дзеіла беларуская суботняя школка.

Пачаўшы працаваць у Нью Ёркскай Публічнай Бібліятэцы, спачатку я, пазьней Зора, аддаваліся працы. Праца была цікавая, мы былі задаволеныя. Праца ў бібліятэцы была цікавая й тым, што мы амаль штодня сустракаліся зь нейкім з беларусаў: то прыежджыя, то "свае", эмігранты. Вельмі блізка сябравалі й працавалі-дапамагалі др. Вітаўту Тімашу. Ён быў як супрацоўнік бібліятэкі!

Калі дзеці былі ў веку сярэдняе школы, вельмі багата падарожнічалі па Амэрыцы. У падарожжах дзе маглі зьбіралі беларусіку: кнігі, рэчы. Наагул, у сямейным жыцьці беларусіка была асноваю. Памятаю, калі мы праяжджалі па мясцовасьцях з карставымі зьявамі, я дзецям тлумачыў, дзе ёсьць карст у Беларусі. Дарэчы, у прывіцьці беларускасьці дзецям вялізарную ролю адыгрывалі бабкі: Апалёнія і Марыя. З бабкамі пазьней дзеці перапісваліся толькі па-беларуску. Беларускія падзеі перапляталіся каляндарна з школьнымі й сямейнымі датамі й заўсёды перавага аддавалася вымогам беларускім. Калі дзеці пайшлі ва ўнівэрсытэты – Алеся ў Прынстан, а Юра ў Ратгэрс – у грамадзкім жыцьці мы пачалі ўдзельнічаць амаль штодзённа. Закончыўшы студыі, дзеці пачалі сваё жыцьцё – Алеся працуе адвакатам, Юра – доктар мэдыцыны, - але ад грамадзкага жыцьця не адлучыліся.

Мы з Зораю паступова дайшлі да пэнсійнага веку, ад 1991 рэгулярна наведваючы Беларусь – калі-некалі па два-тры разы ў год. У гэтым пэрыядзе мы дапамагалі на Бацькаўшчыне даставаць літаратуру, а пры Нью Ёркскай Публічнай Бібліятэцы заклалі Фонд Захаваньня Беларускай Кнігі.

На мой погляд, "з пэрспэктывы часу", як любяць беларусы казаць, у ЗША мы былі салідная амэрыканска-беларуская сям'ёю.

***"Беларус"***. Гэта што да прыватнага жыцьця. А якою была Вашая грамадзкая дзейнасьць у гэтыя гады?

***В. Кіпель***: Коратка адказаць тут проста немагчыма. Я ўважаю, што ўсё маё штодзённае існаваньне было «грамадзкай дзейнасьцю» – думалася, плянавалася, рабілася, як гаворыцца, 24/7. Але згадваюцца розныя эпізоды, як, напрыклад, зьбіраньне грошай на набыцьцё селішча Бэлэр-Менск. Бадай штосуботы, завезшы дзяцей у беларускую школу, мы з Зорай аб'яжджалі нашых людзей, просячы грошы. Мы ўважалі, што дом летняга адпачынку дапаможа трымаць людзей разам, рабіць даклады, дзіцячыя лягеры. Былі сабраныя грошы, набылі мясьціну – і на працягу дзесяцігодзьдзяў Бэлэр-Менск выконваў сваю ролю.



Іншая большая падзея, якая прыпамінаецца, - ладжаньне трох Беларускіх Фэстываляў у штаце Нью Джэрзі ў 1976, 1977, 1979 гадох. Фэстывалі ўважаліся штатнымі, але арганізоўвалі ўсе беларускі адмысловы камітэт – кожны налічваў каля 100 асобаў. Мяне выбіралі старшынём, хоць я заўсёды падкрэсьліваў: беларускія фэстывалі – гэта вынік працы энтузіястаў Кіпеляў-Запруднікаў-Рагалевічаў-Рамано-Літаровічаў і сотняў іншых беларускіх актывістаў, якія хацелі нешта зрабіць для Беларусі. Прапаганда-рэкляма фэстываляў вялася прыкладна з паўгады. Добра ведаю, што фэстывалі дапамагалі ўвесьці Беларусь у падручнікі, даведнікі, школьныя праграмы. Былі надрукаваныя кніжкі з артыкуламі пра беларусаў, беларускія цэрквы ўлічваліся ў турыстычных брашурах.

Яшчэ адзін эпізод – гэта старшынства губэрнатарскае рады штату. На старшыню рады я быў прызначаны губэрнатарам Б. Бэрнам у 1978 годзе і займаў гэтае становішча 4 гады, да 1982 году. Гэта быў пэрыяд інтэнсыўнае працы: штомесяца я мусіў рабіць даклады пра стан жыцьця нацыянальнасьцей штату, амаль штотыдня бываць у школах, розных арганізацыях і знаёміць грамадзтва з праблемамі розных этнічных групаў. Бясспрэчна, гэта была добрая аказія знаёміць грамадзтва з Беларусьсю, бо кожны свой выступ пачынаў з таго, што я – беларускага паходжаньня. Гэты пэрыяд быў пазнавальным і для мяне: я ўвайшоў у блізкі працоўны кантакт з прад-

стаўнікамі каля 100 нацыянальнасьцей. Мушу таксама падкрэсьліць, што старшынства – 2-х гадовае, але губэрнатар зацьвярджаў мяне двойчы.

А наагул, як зазначыў, у грамадзкіх пачынаньнях я браў незьлічоны ўдзел. Рэдагаваў розныя бюлетэні, часапісы, пару гадоў – газэту "Беларус". У Нью Ёрку, прыкладам, разам з сп. Шукелойцам (сябрам сям'і Савёнкаў-Кіпеляў панад 60 гадоў!) арганізоўвалі дзесяткі дэманстрацыяў, выстаў ды няраз экскурсіяў па гораду. У грамадзкіх справах даводзілася шмат езьдзіць: Вашынгтон, Чыкага, Кліўленд, Пітсбург, Бостан – там, дзе ладзіліся беларускія імпрэзы.

***"Беларус"***: Ці меў падзел на БЦР-БНР, што раскалоў грамадзтва, уплыў на Вашую дзейнасьць?

***В. Кіпель***: Гэты падзел мне не надабаўся, бо ня быў лягічным. У дзьвюх плынях кіраўніцтва было беларускім, незалежніцкім, якое змагалася за дзяржаўнасьць Беларусі. Уважаю, каб было большае хаценьне з кожнага боку, падзелу ня было-б. Супрацоўнічаў я з прадстаўнікамі абодвух бакоў. Вельмі добра на гэтую тэму выказаўся мой найбліжэйшы панад 60-ці гадовы сябра др. Янка Запруднік: "Ніводны з нас ня быў ні стопрацэнтным "зарубежнікам", ні "крывічом", хоць Вітаўту было бліжэй да першых, а мне – да другіх. Ён быў добрым сынам бацькі і ня мог не салідарызавацца зь ім, а я ад часу студэнцтва быў блізка да Міколы Абрамчыка, тагачаснага старшыні Рады БНР. У нашых бясконцых гутарках на грамадзкія й нутрапалітычныя тэмы мы часамі трымаліся палярна супрацьлеглых пагляду, але гэта ніколі не пераходзіла ў пэрсанальны канфлікт – розьніца думак аніяк не перашкаджала той працы, якой мы супольна займаліся і якой заўсёды было так шмат. У чым сакрэт гэткай згоды? Адказ напрошваецца сам сабой: у тых нацыянальных вартасьцях, дзеля якіх мы жывём, у беларускім патрыятызьме, адданасьці таму, што мы завём Беларускай Справай".

Праўда, у ЗША, калі гаворка ішла пра рэпрэзэнтацыю ў Вашынгтоне, то найчасьцей я выступаў ад БАЗА, хоць некалькі разоў, на просьбу сп. І. Касяка ці А. Плескачэўскага, і ад імя Беларускага Кангрэсовага Камітэту. Мушу тут падкрэсьліць адну сямейную акалічнасьць: і Зора, і Алеся, і Юра – аднабаковыя і адданыя сябры БАЗА.

***"Беларус"***: Сп. Вітаўт, наколькі блізкім для Вас стала амэрыканскае жыцьцё?

***В. Кіпель***: Натуральна, кожны эмігрант увaходзіць у жыцьцё чужое краіны як толькі ён атрымлівае грамадзянства – ён галасуе. Эмігрант увaходзіць у амэрыканскае жыцьцё як толькі ягоныя дзеці ідуць у школу. І я ў гэтым выпадку не вынятак. Але я таксама браў удзел у амэрыканскім і палітычным, і грамадзкім руху. На працягу чатырох гадоў я быў старшынём беларускіх рэспубліканскіх клюбаў. Мы ініцыявалі падарожжа прэзыдэнта Р. Ніксана ў Беларусь. Давалі "беларускія дні" ў амэрыканскім календары. Давялося шмат пісаць у газэты, выступаць на амэрыканскіх канфэрэнцыях. Дарэчы, па маіх падліках, для радыё "Вызваленьне-Свабода" я напісаў панад 3500 скрыптаў, адсоткаў дзесяць зь іх былі скрыпты на выключна амэрыканскія тэмы.

У амэрыканскім грамадзкім жыцьці я належыў да скаўтынгу – 8 год быў скаўтмайстрам аднаго з амэрыканскіх скаўцкіх аддзелаў (заснаваны ў 1910 годзе). З др. Петэрам Самартына, канцлерам унівэрсытэту Фарлей Дыкінсон, у 1970-х дапамагаў адналеньню музэю на Высьпе Сьлёзаў (Ellis Island). Быў адным з рэдактароў англамоўнае сэрыі кніжак пра эўрапейскую эміграцыю ды, прыпушчаю, што ганаровым грамадзянінам гораду Кліўленду мэр гораду Джордж Вайновіч зрабіў мяне і за беларускую, і за амэрыканскую дзейнасьць. Я належу да шматлікіх амэрыканскіх таварыстваў, падтрымліваю розныя мясцовыя, асабліва гістарычныя, суполкі.

***"Беларус"***: Як ішла вашая навукова-дасьледчая дзейнасьць?

***В. Кіпель***: Затрымаюся толькі на дзейнасьці беларусаведнай. Прыехаўшы ў ЗША, мы з Зораю адразу ўступілі ў сяброўства ў БІНіМ. Хутка пасябравалі з др. Тумашам – дапамагалі яму ў Скарыніяне. Ад БІНіМу пачалі браць удзел у працы такіх арганізацыяў, як Амэрыканская Асацыяцыя Славяназнаўцаў, Асацыяцыя Вывучэньня Усходняе Эўропы. Штомесяца наведвалі зборкі-даклады ў БІНіМе.

Неўзабаве абралі свае дзялянкі: Зора – літаратуру, я – пасяленьне беларусаў у ЗША. Апублікавалі й зачыталі сотні а сотні дакладаў на гэтыя тэмы. У "Запісах БІНіМ" (№27 і №28) выдрукаваныя нашыя бібліяграфіі. Праз БІНіМ навязалі лучнасьць з шматлікімі каледжамі й бібліятэкамі. Пачынаючы ад канца 1970-х гадоў вельмі інтэнсыўна пачалі друкаваць: запачаткавалі сэрыю "Беларускія паэты й пісьменьнікі на эміграцыі" – выйшла 11 кніжак; ад пятага тому яе курыруе Лявон Юрэвіч. Іншая сэрыя – бібліяграфічная, дзе выйшла ўжо 7 кніжак, сярод якіх – "Архівы БНР", "Беларуская Дзяржаўнасьць", "500 год Скарыніяны", "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе", "Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі" ды іншыя. Пачалі таксама ненумараваную сэрыю "З гісторыі эміграцыі", у якой неўзабаве пабачыць сьвет новае дасьледаваньне Л. Юрэвіча, прысвечанае гісторыі газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус". Выданьне ажыцьцяўляецца сумесна з Згуртаваньнем Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына". Літаральна днямі выйшла з друку кніга працаў а. М. Лапіцкага, падрыхтаваная др. Юрасём Гарбінскім, нашым новым сябрам-калегам з Польшчы.

"Запісы", распачатыя ў 1951 г., выходзяць надалей, праўда, значна таўсьцейшыя, амаль 500 бачынак. Цяпер ідзе праца над 30 выпускам. Зноў-такі, пераймаюць маладзейшыя – др. Натальля і Алег Гардзіенкі, Лявон Юрэвіч, Надзя Старавойтава. Гэта вялікая дапамога гал. рэдактару праф. Тамашу Бэрду.

***"Беларус"***: Хацелася-б тут запытацца пра Вашую працу "Беларусы ў ЗША" (беларускае выданьне 1993 г., амэрыканскае 1999 г.).



**Вітаўт і Зора Кіпелі з Васілём Быкавым.**

***В. Кіпель***: Уважаю гэту працу сваёй найбольш важнаю. Яна сталася першаю такога кшталту. Заўсёды было ведама, што беларусаў прыяжджала шмат, але ніхто іх не вывучаў, не займаўся імі. Таму я паставіў сабе задачу: паказаць амэрыканскаму чытачу, што былі й ёсьць беларусы тут. Спадзяюся, я патрапіў давесьці. І кніга "працуе" – яна разышлася ў 100 бібліятэк, у каледжах пачынаюць вывучаць беларусаў. За мінулыя пару тыдняў я атрымаў блізу 20 званкоў з пытаньнямі – просяць удакладніць пэўныя мясьціны з кнігі, спраўдзіць спасылку, даведацца пра архівы. Хацелася-б, каб і ў Беларусі пачалі вывучаць эміграцыю.

***"Беларус"***: Што знаходзіцца ў друку цяпер?

***В. Кіпель***: Перш-наперш, у друку ангельска-беларускі слоўнік, укладзены сьв. пам. Валянтынай Пашкевіч, а ў рэдакцыі БІНіМу ад 1980-х гадоў. Працы над слоўнікам было жахліва шмат – павелічэньне лексікону, зьмена транскрыпцыі, г. д. Працавала рэдкалегія паваенных эмігрантаў з удзелам маладых навукоўцаў – такіх, як Сяргей Шупа, Зьміцер Саўка. Адміністрацыйна гэтым займалася Зора Кіпель, а вось без малога тры гады вялікую працу па падрыхтоўцы да здачы ў друк робіць др. Янка Запруднік. Ён яшчэ напіша пра гэта ў "Беларус".

***"Беларус"***: Спадар Вітаўт, найбольш яскравыя здарэньні за часы Вашае грамадзкае дзейнасьці – гэта...

***В. Кіпель***: Першае – калі Ларыса Геніюш праз людзей прыслала прывітаньне на Другі Беларускі Фэстываль у 1977 годзе: "Благаслаўлёна тая зямля".. Разам зь вершам прыслала дамотканую посьцілку. Блізу 4-х тысячная аўдыторыя разам з губэрнатарам апладзіравала стоячы хвілінаў 10. Незабыўнае ўражаньне!

Другое. Вось у Нью Ёркскай Бібліятэцы ёсьць мікрафільмы газэты "Наша Ніва". Ніколі не забуду, як гэты камплект трапіў да нас.

Па ходу працы ў бібліятэцы мне трэба было быць на нейкім спатканьні з савецкімі бібліятэкарамі. Было гэта, мабыць, у 1973 ці 1974 годзе. Кіраўніком дэлегацыі быў Мікалай Міхайлавіч Сікорскі – тагачасны дырэктар Дзяржаўнай Бібліятэкі СССР. У сьпісе дэлегатаў, што мне далі, было зазначана, што Сікорскі – беларус.

Бібліятэкары зьявіліся ў час. Мы пазнаёміліся, і я Сікорскаму сказаў, што і я беларус, пасьля чаго мы неяк часьцей абменьваліся думкамі-рэплікамі па-беларуску. Пад час гутарак я зазначыў, што цяжка атрымоўваць зь Беларусі матар'ялы, а тым больш газэты. На гэта Сікорскі спытаў, што асабліва цікавіць. "Ну, вось прыкладам газэта "Наша Ніва", якой на Захадзе нідзе няма", адказаў я. "Колькі ня пішаш у Менск, адказу няма". Сікорскі нічога не сказаў, адно пацікавіўся, дзе, на маю думку, ёсьць камплекты газэты. Я ведаў дакладна: Бібліятэка Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. І што вы думаеце?! Дэлегацыя зьехала, а недзе празь пяць тыдняў мы атрымалі "Нашу Ніву"! Бясспрэчна, тое быў падарунак ад М. Сікорскага, якім з таго часу карысталіся сотні дасьледнікаў.

***"Беларус"***: Сп. Вітаўт, ці маеце асабістыя кантакты зь Беларусьсю?

***В. Кіпель***: Зь Беларусьсю я быў у кантакце заўсёды. Сустракаўся зь беларускімі пісьменьнікамі ад 60-х гадоў. Ад 1991 штогоду бываю на Бацькаўшчыне. Займеў літаральна сотні сяброў: з А. Малдзісам ды А. Макоўскай ладзіў канфэрэнцыі, Л. Рабок вельмі ўдзячны за знаёмства з Н. Б. Ватацы і ейнае сачэньне за беларускім кнігазборам, Г. Сагановічу ніколі не забуду росшукі Кіпеляў на Палесьсі, а з Ул. Арловым аб'ехаў, напэўна, усю Беларусь. І ягоная кватэра, як і кватэра сям'і Зоры, адраджае мне той Менск дзяцінства - цёплы, сямейны.

***"Беларус"***: Напрыканцы такое пытаньне: калі падрахаваць зробленае Вашым, паваенным, пакаленьнем беларусаў-эмігрантаў, што дасягнута?

***В. Кіпель***: Пачалі ў Кангрэсе, друку, школах гаварыць пра Беларусь, пра каляніяльны стан БССР. Выдрукавалі шмат навуковых дасьледваньняў, англа- і беларускамоўных, на тэмы скажоныя або зусім недазволеныя ў БССР. Запачаткавалі вывучэньне беларускай эміграцыі. Запачаткавалі беларускія селішчы, прыходы – у значнай меры "паставілі" беларускую групу на этнічную карту ЗША.

***"Беларус"***: Вашае слова чытачам "Беларуса"?

***В. Кіпель***: Падтрымоўвайце беларускія арганізацыі, цэрквы, нашую спадчыну ў ЗША. Гэтым робіцца вялікая праца для нацыі, якая дала для ЗША каля мільёну працоўных душ і удзельнічала ў індустрыяльным працэсе разбудовы Амэрыкі. Трэба памятаць, што панад 650 тысячаў беларускіх эмігрантаў пасяліліся ў ЗША настала ў першай чвэрці XX стагодзьдзя. Іхныя нашчадкі – спадчына Беларусі. Аб беларускай цагліне ў амэрыканскім будынку трэба гаварыць і гаварыць.

Прыемна нам, старым (жудасна, як хутка прышлося стасаваць гэтае слова да самога сябе!) усьведамляць, што нас, нашую дзейнасьць падмяняе маладое пакаленьне эмігрантаў. Вам, маладым супрацоўнікам газэты, мае найшчырэйшыя пажаданьні посьпеху, а для самой газэты, на ейны далейшы бесьперапынны выхад, ахвярую тысячу даляраў.

***Паважаная Рэдакцыя газэты "Беларус"!***

***Карыстаючы з нагоды свайго інтэрвію, праз газэту хачу шчыра падзякаваць сябрам-аўтарам, добразычліўцам, якія выказалі пра мяне гэтулькі думак-заўвагаў-аналізаў у №29, 2005 выпуску "Запісаў БІНІМ", прысьвечанага маёй працы: Сяргею Панізьніку, Алегу Гардзіенка, Уладзімеру Арлову, праф. Тамашу Бэрду, праф. Арнольду МакМіліну, др. Янку Запрудніку, др. Юраму Туронку, др. Адаму Мальдзісу, Генадзю Сагановічу, Захару Шыбеку ды рэдактарам выпуску Натальлі Гардзіенка й Лявону Юрэвічу.***

***Вітаўт КІПЕЛЬ***

# Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Нью Ёрк) МГА Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына"

Кожная галіна гуманістыкі, пэўнай сфэры дасьледаваньня, дасягае таго этапу, калі – каб перайсьці на якасна новы ўзровень – неабходна падвесьці вынікі зробленага. Падобная сытуацыя склалася з вывучэньнем беларускай дыяспары. Распачатае фактычна толькі на пачатку 1990-х гадоў, сёньня яно мае добры, хоць і няроўны набытак. Найбольшую ўвагу выклікалі пісьменьнікі-эмігранты ды іхныя творы, як апублікаваныя, гэтакі захаваныя ў архівах; самі архівы, грамадзкія й прыватныя. Знайшла адлюстраваньне ў дасьледаваньнях гісторыя эміграцыі, найперш у ЗША, Канадзе й Аўстраліі, праробленая вялікая праца па складаньні біяграфіяў дзеячоў дыяспары, бібліяграфічнай удакумэнтаванасьці іхнай дзейнасьці й г.д. Разам з тым, засталіся некранутымі важныя аспэкты гісторыі й сучаснага існаваньня дыяспары, апублікаваныя працы ж не заўсёды прымаюцца пад увагу й бяруцца да навуковага спажытку калегамі.

Адзначанае тлумачыць патрэбу стварэньня энцыкляпэдыі й фармулюе еныя ідэі: падвесьці вынікі і аўтарытэтна замацаваць зробленае ў вывучэньні дыяспары ды адначасова акрэсьліць новыя тэмы й шляхі дасьледаваньня.

Час – не гістарычны, што праўда, а прасторавы – спрыяе: за прамінулыя больш-менш 15 гадоў прайшла непазьбежная эйфарыя знаёмства з дыяспарай і суцішылася зразумелае расчараваньне. Час дазваляе складаць энцыкляпэдыю без патасу й крыўдаў.

Такую працу прарабіць здольны адно калектыў прафэсіяналаў, таму да супрацы запрашаюцца аўтары, якія сваімі ведамі дапамогуць удасканаліць выданьне, незалежна ад таго, было вывучэньне дыяспары іхнаю дзялянкаю ці не.

Праца над Энцыкляпэдыяй Беларускай Дыяспары (ЭБД) распачынаецца зь ініцыятывы Міжнароднага Грамадзкага Аб'яднаньня "Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" (спн. Алена Макоўская) і Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) (др. Вітаўт Кіпель), якія вылучаць арганізацыйны камітэт, што возьме на сябе ініцыятыву па зборы, апрацоўцы, рэдагаваньню й друку ЭБД.

Сувязь з арганізацыйным камітэтам ЭБД ажыцьцяўляецца па адрасу:

***МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"***
***вул. Рэвалюцыйная, 15***
***Менск, 220030***
***Рэспубліка Беларусь***

Электронны адрас старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" А. Макоўскай: ***zbsb@lingvo.minsk.by*** .

ЭБД мае ўвабраць у сябе: біяграфіі як беларусаў-эмігрантаў, што пакінулі па сабе сьлед, гэтак і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, чыя дзейнасьць была ці ёсьць зьвязаная зь беларускай дыяспарай; артыкулы пра геаграфічныя мясцовасьці (краіны, гарады), дзе знайшлі прытулак беларусы; арганізацыі (палітычныя, грамадзкія, культурніцкія, навуковыя); парафіі; выдавецтвы, друкі (часапісы, газэты); падзеі (як агульнабеларускія – прыкладам, сьвяткаваньні 25 Сакавіка, Слуцкіх угодкаў, гэтак і лякальныя – Парад Ляяльнасьці, Тыдзень Паняволеных Народаў); тэарэтычныя (Эміграцыя; Нацыянальная думка; Нацыяналізм), аглядныя артыкулы (Школьніцтва; Жаночы рух; Спорт; Скаўцтва), тэрміналёгію (дыпісты; крывічы, зарубежнікі, бэлбурнацы).

## Колькі заўвагаў да будучых артыкулаў

**Біяграфіі.** Гэта будзе, бадай што, найбольшая частка артыкулаў, прысьвечаных дзеячам дыяспары незалежна ад іх ідэалягічных і палітычных паглядаў. Узор біяграфічнага артыкулу дадаецца да Праекту; пажадана прытрымлівацца падобнага стылю, унікаючы як сухасьці даведнікаў кшталту Who is Who, гэтакі квяцістасьці "Голасу Радзімы". Арыенцірам для напісаньня біяграфіяў эмігрантаў можа стацца іменны паказьнік у кнізе: Мікола Панькоў. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне 1945-1984. Мн.: Беларускі Гістарычны Агляд, 2001.

**Геаграфічныя артыкулы.** Падаюцца артыкулы пра тыя мясцовасьці, дзе была або ёсьць прыкметная прысутнасьць беларусаў як грамады, нават калі б яны былі прыхаджанамі Расейскай Праваслаўнай Царквы або іншай небеларускай. У артыкуле мусіць быць назоў у мове краіны, колькасьць насельніцтва й колькасьць беларусаў (прыблізная), кароткае апісаньне месца, гісторыя беларусаў у згаданым месцы (пачатак, сёньняшні стан; цэрквы, галоўныя дзеячы, асноўныя імпрэзы, адрэсы).

**Арганізацыі.** Памер артыкулу залежыць ад удзелу арганізацыі ў беларускім жыцьці, гісторыі, часу існаваньня. Калі арганізацыі маюць Статут, просьба залучаць у дадатак да артыкулу. Калі існуе афіцыйная адрэса ў Інтэрнэце, просьба паведамляць яе.

**Бібліяграфія.** Да артыкулаў пажадана дадаваць бібліяграфію скарыстанай ці дадатковай літаратуры; назвы падаваць трэба ў мове арыгіналу.

**Ілюстрацыйны матар'ял.** Гэта вельмі важная частка ЭБД. Просьба дасылаць партрэты дзеячоў, здымкі будынкаў, цэркваў, магілак, помнікаў, зьвязаных зь беларусамі, нават калі якасьць архіўных здымкаў падаецца ўладальнікам кепскаю.

## БІЯГРАФІЧНАЯ АНКЕТА ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

*Просьба падаваць дакладныя даты, геаграфічныя назвы — як у беларускай мове, гэтак і ў мове краіны пражываньня; пажаданае двумоўе датычна таксама й назваў арганізацыяў і прадпрыемстваў. Ухваляюцца любыя дадатковыя зьвесткі, калі месца на старонцы недастаткова, карыстайце дадатковы аркуш.*

1. Імя й імя па бацьку (па-беларуску й лацінкаю - у транскрыпцыі краіны пражываньня) _______

______________________________________________

2. Месца й дата нараджэньня (у выпадку памерлага - месца й дата сьмерці) ______________

______________________________________________

______________________________________________

3. Адукацыя (назва ўстановы, краіна, даты пачатку й заканчэньня навучаньня) _____________

______________________________________________

______________________________________________

4. Прафэсія або асноўны напрамак грамадзкай дзейнасьці (напр., сьвятар, журналіст, інжынэр) ____

______________________________________________

5. Галоўныя функцыі ў грамадзкім, прафэсійным, рэлігійным, культурным, палітычным жыцьці (з датамі):

______________________________________________

______________________________________________

6. Эміграваньне зь Беларусі (калі й праз якія краіны) ______________________

______________________________________________

7. Асноўныя друкаваныя працы, патэнты, выставы (назва публікацыі ў мове арыгіналу, месца й дата)

______________________________________________

______________________________________________

8. Адмысловыя ўзнагароды ______________________________

______________________________________________

9. Дадатковая важная інфармацыя для энцыкляпэдычнага артыкулу ___________________

______________________________________________

10. Кантактны адрас асобы ці аўтара інфармацыі ______________________________

______________________________________________

## АНКЕТА ПЭРЫЁДЫКАЎ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

1. Назва пэрыёдыка (зьмены назвы - з пазначэньнем часу зьмены) ____________

2. Выдавец/выдаўніцтва ____________

3. Заснавальнік(і) ____________

4. Рэдактары (імя,імя па бацьку, даты) ____________

5. Пэрыядычнасьць (штотыднёвік,штомесячнік,нерэгулярна) ____________

6. Колькасьць выдадзеных нумароў на ...../...../05: ____________

7. Фармат выданьня (газэта,часапіс) ____________

8. Месца выданьня (горад,краіна,дата) ____________

9. Характар выданьня (жанр матар'ялаў) ____________

10. Прыналежнасьць да арганізацыі (палітычнай, грамадзкай, рэлігійнай) ____________

11. Асноўныя супрацоўнікі ____________

12. Асноўныя аўтары ____________

13. Мова (мовы) выданьня ____________

14. Наклад (з зьменаю па гадах,прыблізна) ____________

15. Адрас рэдакцыі ____________

16. Да каго зьвяртацца па дадатковую інфармацыю ____________

## ГЕАГРАФІЧНАЯ АНКЕТА ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

1. Назва мясцовасьці (па-беларуску і ў мове краіны) ____________

2. Краіна,штат,правінцыя ____________

3. Важная характарыстыка мясцовасьці (напр.,сталіца,знаходзіцца над ракою, вядомая нечым у гісторыі, культуры, прамысловасьці) ____________

4. Лік насельніцтва ____________

5. Колькасьць беларусаў (па гадах ці на апошні год) ____________

6. Ведамка пра першага беларуса ў месьце ____________

7. Парафіі,цэрквы,час заснаваньня ____________

8. Першыя нацыянальныя арганізацыі (даты заснаваньня) ____________

9. Сучасныя дзейныя арганізацыі (даты заснаваньня,кіраўнікі) ____________

10. Найбольшыя нацыянальныя будынкі,помнікі,беларускія мясьціны ____________

11. Мясцовыя беларускія выданьні ____________

12. Выбітныя грамадзкія дзеячы ____________

13. Важная дадатковая інфармацыя пра месца ____________

14. Да каго зьвяртацца па дадатковую інфармацыю ____________

УВАГА! Які ілюстрацыйны матэрыял можа быць пададзены ____________

## АНКЕТА ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

1. Назва арганізацыі (па-беларуску і ў мове краіны) ____________

2. Мэта й задачы арганізацыі (калі ёсьць Статут,варта далучыць копію) ____________

3. Час заснаваньня арганізацыі ____________

4. Заснавальнікі ____________

5. Колькасьць сяброў (на час заснаваньня; на сёньня) ____________

6. Кіраўнікі (пэрыяд кіраваньня) ____________

7. Асноўныя акцыі,формы дзейнасьці,дасягненьні ____________

8. Афіцыйны пэрыёдык (калі ёсьць; час заснаваньня) ____________

9. Афіцыйная старонка ў Інтэрнэце (калі ёсьць) ____________

10. Час спыненьня дзейнасьці (калі не існуе на сёньня) ____________

11. Сябры арганізацыі ____________

12. Адрас арганізацыі ____________

13. Важная дадатковая інфармацыя ____________

# З гісторыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Публікуем чарговы фрагмэнт кнігі Зьмітра САЎКІ "Пяцьдзясят гадоў БАЗА (1949-1999)". Правапіс аўтара захаваны.

## Гадавы каляндар базаўца

Базавец, як і этнаграфічны беларус, жыве ў коле цыклічных, паўтараных кожны год, сьвятаў і ўрачыстасьцяў. Паказальна, што ў гадавой справаздачы, зробленай тагачасным старшынём Нью-Ёрскай Акругі Міколам Клінцэвічам 24 красавіка 1974 году, у якасьці асноўных кірункаў працы Акругове Ўправы называюцца менавіта "каляндарныя" сьвяты: студзень — ялінка, люты — запусты або баль, сакавік — Дзень Незалежнасьці, красавік — Парад Ляяльнасьці, травень — удзел у Кангрэсе БАЗА што два гады, чэрвень — гадавы сход Акругі, ліпень — Тыдзень Паняволеных Народаў, верасень — удзел у Сустрэчах Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, кастрычнік — вечарына або запусты, лістапад — угодкі Слуцкага Паўстаньня, сьнежань — сустрэча Новага Году.

Трэба заўважыць, бальшыня беларускіх традыцыйных сьвятаў з базаўскага каляндара звычайна адзначаецца «нясвоечасова» — у канцатыдзень напярэдадні ці пасьля адпаведнае даты, што тлумачыцца занятасьцю людзей у працоўныя дні. Зрэшты, па такім «графіку» жыве ўся Амэрыка, дый сучасная Беларусь таксама. Таму кожны год тая ці іншая «дата» адзначаецца ў іншы дзень. Што да дзяржаўных амэрыканскіх сьвятаў, адзначаных беларусамі, то ўсе яны «прывязаныя» да канцатыдняў.

Большыя імпрэзы (Сакавік, Сустрэчы) звычайна праводзяцца ў нанятым памяшканьні, зарганізоўваюцца па схеме, якая амаль выключае правал: арганізацыйны камітэт (ці іншы афіцыйны арганізатар) праз друк, вусныя абвесткі, а найперш — рассыланьне запрашальнікаў паведамляе пра імпрэзу й кошт удзелу (donation). Такім чынам арганізацыйны камітэт атрымлівае праз пошту мінімальную колькасьць чэкаў, грошай зь якіх дастаткова для найманьня залі, сілкаваньня, аплаты іншых выдаткаў. Такі мэханізм арганізацыі не патрабуе ад ініцыятараў значных папярэдніх укладаньняў і дае магчымасьць сплянаваць маштаб імпрэзы, зыходзячы з колькасьці ўдзельнікаў; зрэшты, далучыцца да сьвята ня позна можна і ў дзень сьвяткаваньня.

Меншыя імпрэзы (Каляды, Дзень Маці, Запусты, Дажынкі ды інш.) ладзяцца ў "сваім" памяшканьні, напрыклад, у прыцаркоўнай залі, — натуральна, менш афіцыйна, па-сямейнаму.

### Каляды (7 студзеня)

Беларусы ЗША ў якасьці свайго этнічнага сьвята адзначаюць менавіта "праваслаўныя" Каляды — паводле юліянскага календара. Тлумачыцца гэта, відаць, дзьвюма акалічнасьцямі: па-першае, Каляды паводле грыгарыянскага календара (25 сьнежня) у ЗША — дзяржаўнае сьвята, хіба цэнтральнае ў календары сярэднестатыстычнага амэрыканца, таму амэрыканскі беларус сустракае гэтую ўрачыстасьць, як і належыць, у сям'і; па-другое, праваслаўны сярод дыяспары, як і ў мэтраполіі, пераважная бальшыня, што асаблівá істотна ў зьвязку з рэлігійным характарам Калядаў, да таго ж праваслаўныя маюць свае цэрквы, якія адначасова ёсьць беларускімі грамадзкімі цэнтрамі*.

Дзіцячы варыянт сьвята — "ялінка". Упершыню больш маштабную «ялінку» ўдалося зарганізаваць 12 студзеня 1952 году стараньнямі Жаночае Сэкцыі БАЗА ў Нью Ёрку; падпісала запросіны старшыня Сэкцыі Барбара Вержбаловіч.

Часам ставала імпэту й батлейку зладзіць. Гэтак, 11 студзеня 1958 году ялінку ладзілі ў залі Бруклінскага Аддзелу ІЎКА (YWCA — Young Women Christian Association) — з батлейкаю ў выкананьні Марыі Станкевіч, лялькі для паказу сшылі базаўкі. З гэтае нагоды «Беларус» выказаў пажаданьне: *«Вельмі-б добра было, каб жанчыны спрычыніліся да пачаткаваньня лялечнага дзіцячага тэатру»* (Б-с. №64).

У Кліўлэндзе ў канцы 1950-70-я, а ў нью-ёрскім мэгаполісе ў 1970-80-я гады напярэдадні Божага Нараджэньня моладзь (у тым ліку тыя, хто выгадаваўся на ялінках 1950-х) калядавала, праўда, зважаючы на рэаліі, рабілася гэта «па-амэрыканску»: шумная кампанія ладуецца ў колькі аўтамабіляў і картэжам ляціць «па адрасох» — аб'яжджае дзясяткі беларускіх хатаў, раскіданых па абшарах, сумерных зь Менскаю вобласьцю, а ўжо ў хатах калядаваньне ідзе звыклым парадкам — з калядною зоркаю, казою, песьнямі, скокамі, пачастункам ды «калядным». Бывала, усё «калядное» ахвяравалася на беларускую справу, прыкладам, на выданьне часопіса *Byelorussian Youth*.

Калі ў экс-калядьнікаў зьявіліся свае дзеці, адзначэньне Калядаў зноў вярнулася ў "фармат" ялінак. Найбольш актыўнымі ў зарганізаваньні калядных сьвятаў цягам дзесяцігодзьдзяў былі сем'і Азаркаў, Кіпеляў, Русакоў, Туроў.

### Запусты (люты–сакавік)

Пачатак Вялікага посту, або па-народнаму Запусты, несумненна, сьвята рэлігійнае, аднак у базаўскай практыцы яно набыло пэўнае сьвецка-сямейнае адценьне, асабліва ў тых аддзелах, дзе за справу бралася мясцовая жаночая структура. Абавязковыя элемэнты Запустаў — натуральна, багаслужба ды абед з блінамі, якія звычайна пераўтвараецца ў сяброўскую бяседу.

«Пад бліны» нярэдка вырашаліся важныя пытаньні. Прыкладам, 16 лютага 1969 году рэдактар газэты «Беларус» Станіслаў Станкевіч наведаў Кліўлэндзкі Аддзел, каб паінфармаваць чытачоў пра дзейнасьць рэдкалегіі, а галоўнае — сабраць грошай на выданьне.

Часам да бліноў дадаваліся мастацкія выступы: прыкладам, 4 сакавіка 1973 году імпрэзу ў Нью-Ёрскім Аддзеле ўпрыгожылі народнымі танцамі дзяўчаты пад кіраўніцтвам Галіны Тумаш. Часам імпрэза пераўтваралася ў танцавальную вечарыну, як 20 лютага 1972 году ў тым жа Беларускім Грамадзкім Цэнтры (Бруклін), дзе грала струнная аркестра Андрэя Каптуровіча.

### Сакавіковыя ўгодкі (25 сакавіка)

Абвешчаньне незалежнасьці Беларусі — цэнтральная падзея ў нацыянальнай гісторыі беларусаў. Таму Сакавіковыя ўгодкі адзначаюцца асабліва ўрачыста. Абавязковы момант сьвяткаваньня — прысутнасьць палітычных лідэраў дыяспары, найперш Старшыні Рады БНР.

Угодкі незалежнасьці можна назваць міні-Сустрэчамі Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў нью-ёрскім мэгаполісе: сюды прыяжджалі ня толькі з бліжэйшых штатаў (аддзелаў і дэлегатураў з Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Канэтыкату, Масачусэтсу), але з аддаленых мясьцінаў — адтуль, дзе не было базаўскіх структураў, але былі прыхільнікі БНРаўскае плыні, а таксама госьці з Канады, Эўропы, Аўстраліі. Падабенства з Сустрэчамі Сакавіку надае й разгорнутая праграма, якая складаецца з палітычнае й мастацкае частак; апошняя ўлучае выставы й прэзэнтацыі.

Першае "поўнамаштабнае" сьвяткаваньне Сакавіка БАЗА зарганізавала ў 1950 годзе. Багаслужба прайшла ва ўкраінскай царкве сьв. Уладзімера; з прывітаньнем выступіў старшыня БАЗА Мікола Гарошка, рэфэрат прачытаў адзін з найстарэйшых беларускіх дзеячаў Міхась Рагуля. Цэнтральнай фігураю стаў Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, які выступіў з асноўнаю прамоваю. Беларусаў сваімі вітаньнямі падтрымалі прадстаўнікі іншых дыяспараў — украінцаў, славакаў, эстонцаў, казакаў**.

Сакавіковыя ўрачыстасьці — гэта добрая нагода шырэй заявіць пра сябе, таму з выхадам беларусаў на амэрыканскае *палітычнае поле, прынамсі як электаральнае сілы*, стала важна пазнаёміць кангрэсмэнаў і сэнатараў, а таксама кіраўнікоў мясцовых адміністрацыяў зь беларускаю супольнасьцю: палітык будзе старанней адстойваць інтарэсы сваіх выбарнікаў, калі сустрэнецца зь імі, пацісьне руку, выслухае й раскажа, што ён ужо зрабіў для іх ды што яшчэ зробіць. У 1957 годзе на сьвяткаваньні ў Дэтройце 24 сакавіка прысутнічаў ведамы — яшчэ з 1920—1930-х гадоў — палітычны й грамадзкі дзеяч Янка Чарапук-Змагар, а прысутных віталі сэнатары Патрык МакНамара (Patric McNamara) і Чарлз Э. Потэр (Charles E. Potter).

На прыкладзе іншых этнічных групаў, напярэдадні 25 сакавіка беларусы — прынамсі там, дзе яны складалі заўважную лічбу, — пачалі зьвяртацца да мясцовых уладаў з просьбаю абвясьціць гэты дзень Беларускім. Мясцовыя ўлады звычайна ішлі насустрач гэтым просьбам і выдавалі праклямацыю адпаведнага зьместу. У Беларускі Дзень адбываецца ўрачыстае ўзьняцьце, побач з амэрыканскім, бел-чырвона-белага сьцяга, пасьля чаго кіраўнік мясцовых уладаў (губэрнатар — калі Беларускі Дзень абвяшчаецца ў пэўным штаце, мэр — калі ў пэўным горадзе — ці іншы дзяржаўны службовец) або дэпутат прымае прадстаўнікоў беларускае дыяспары. Гэтак, у 1978 годзе 21 сакавіка дэлегацыя Галоўнае Ўправы БАЗА й АБАМ адведала кангрэсмэна спн. М. Фэнўік з акругі Самэрсэт, у якой жыве шмат беларусаў; 22 сакавіка дэлегацыя ў складзе: Мікола Кунцэвіч (ад БАЗА), Вера й Ніна Запруднікі, Данчык, Раіса Станкевіч (ад АБАМ), наведала ўправу гораду (City Hall) Нью Ёрку, дзе прадстаўнік мэра ўручыў праклямацыю аб абвешчаньні ў горадзе Беларускага Дня. Такая практыка была запачаткаваная ў 1950-я гады й працягваецца да сёньня.

У 1950-я гады, пакуль нью-ёрскія беларусы не набылі дому ў Брукліне, пад імпрэзу наймалі прэзэнтабельныя залі на Мангэтане. Напрыклад, у 1952 годзе гэта быў *Bethoven Hall* у Даўн Таўне (210-14 East 5th Street), пазьней доўгія гады наймалі залю гатэлю *Biltmore*.

### Парад Ляяльнасьці (апошняя нядзеля красавіка або першая нядзеля траўня)

Парад Ляяльнасьці (Loyalty Parade) быў задуманы як антылявацкая акцыя, Першамай-наадварот і ўпершыню адбыўся ў 1918 годзе — таму й прымеркаваны ён да 1 траўня. У 1932 годзе ўпершыню сьвяткавалі ўжо Дзень Ляяльнасьці (Loyalty Day), праўда, рэгулярна ён пачаў адзначацца толькі з 1949 году, а набыў афіцыйны статус яшчэ пазьней — толькі ў 1958-м. Апалітычнаму чалавеку гэтая акцыя здасца дэманстрацыяй вернападданства (пра што, зрэшты, яскрава сьведчыць і назва акцыі), але ў 1950—1970-я — на фоне «барацьбы дзьвюх сыстэмаў» — для амэрыканскіх беларусаў гэта была нагода выразна засьведчыць, па які бок барыкадаў яны знаходзяцца, а таксама заакцэнтаваць увагу і палітыкаў, і грамадзтва ЗША на праблеме Беларусі.

***Нюра Русак:***
*На першы Парад Ляяльнасьці ў Амэрыцы ў 1950 годзе я яшчэ сьцяг сшыла. А не было на чым шыць, то ў Заморскіх была нейкая машына старая.*

Найбольш актыўна ўдзельнічалі ў Парадзе беларусы зь нью-ёрскага мэгаполісу, бо тут яны найбольш палітызаваныя й удзел у дэманстратыўных акцыях пасярод сталіцы сьвету — ці не найбольш дзейсны сродак заявіць пра сябе й свае вымогі. Кожная этнічная дэлегацыя на Парад абірала свайго ганаровага маршалка (26 красавіка 1958 г. у Нью Ёрку гэты абавязак выконваў генэрал Францішак Кушаль).

У нумары газэце *Daily News* за 6 траўня 1958 году (наклад 2 мільёны асобнікаў) зьявілася маленькая нататка з нагоды Параду Ляяльнасьці пад назовам "Твары свабоды":

*Мангэтан: Ці заўважылі вы, якую вялікую частку дэманстрантаў на Парадзе Ляяльнасьці складалі імігранты з Украіны, Беларусі, Вугоршчыны, Кітая ды іншых краінаў, паняволеных Савецкім Саюзам? Гэта тыя людзі, што цэняць свабоду.*

І тут жа здымак Раісы Станкевіч і Галіны Тумаш з плякатам: *Long Live America, Only Hope of Oppressed Peoples* [Няхай жыве Амэрыка — адзіная надзея прыгнечаных народаў].

Пад сярэдзіну 1970-х Парад Ляяльнасьці пачаў губляць прыцягальнасьць для большасьці ранейшых "этнічна афарбаваных" удзельнікаў (2 траўня 1970 году, апроч беларусаў, шматлюдным быў удзел толькі кітайцаў) і паступова заняпаў.

Цяпер Дзень Ляяльнасьці адзначаецца толькі ў асобных мясьцінах Амэрыкі як лякальнае сьвята, прытым бяз колішняга антыкамуністычнага патасу.

### Дзень Маці (другая нядзеля траўня)

Гэтае дзяржаўнае сьвята*** адзначаецца найперш у тых аддзелах, дзе БАЗА мае ня так палітычны, колькі грамадзкі характар. Хоць адно зь першых сьвяткаваньняў у Нью-Ёрскім Аддзеле, 12 траўня 1957 году ў Руска-Славянскім Клюбе (144, 2 авэню), улучала асьветніцкі момант — прагучалі рэфэраты Марыі Станкевіч пра Дзень Маці і Янкі Станкевіча «Найвыдатнейшыя жанчыны ў гісторыі Беларусі». У 1980—90-я гады найбольш рэгулярна сьвята адзначалася ньюджэрзійскаю й кліўлэндзкаю калёніямі, у апошняй — зь нязьменным караваем.

### Дзень Бацькі (трэцяя нядзеля чэрвеня)

Адносна новае сьвята****, задуманае ў імя гендэрнае роўнасьці, а таму адзначаецца тоесна Дню Маці. Яго пачалі сьвяткаваць у кліўлэндзкай калёніі яшчэ ў 1960-я гады – да зацьверджаньня прэзыдэнтам ЗША; тут, як і пры арганізацыі Дня Маці, у адзначэньні Дня Бацькі рэй вядзе парафіяльная рада. 14 чэрвеня 1969 году заканчэньне навучальнага году ў Кліўлэндзкай беларускай школе спалучылі з адзначэньнем яшчэ двох сьвятаў — Дня Маці й Дня Бацькі.

### Тыдзень Паняволеных Народаў (трэці тыдзень ліпеня)

17 ліпеня 1959 году прэзыдэнт ЗША Дуайт Аўзэнгаўэр і 86-ы Кангрэс ЗША упершыню абвясьцілі Тыдзень Паняволеных Народаў (Public Law 86-90). Кангрэс упаўнаважыў прэзыдэнта кожны год выдаваць праклямацыю й заклікаць амэрыканскі народ адзначаць Тыдзень, пакуль усе паняволеныя народы не атрымаюць незалежнасьці. Прыняцьцё закону пра ТПН азначае пачатак новага этапу ў халоднай вайне — Амэрыка такім чынам прызнала за эмігрантамі права на ўдзел у

**Заканчэньне на бачыне 10**




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №10 (477)


# Верасьнёўскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У нядзелю, 11 верасьня, у грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага прайшоў чарговы сход аддзелу БАЗА. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка выступіў з дакладам пра Нацыянальную Бібліятэку Беларусі (НББ). У прыватнасьці прамоўца адзначыў, што Нацыянальная бібліятэка кожнай краіны ёсьць атрыбут сувэрэнітэту, гэтак як сьцяг, герб, войска і г. д. Нажаль, у Беларусі яе галоўная бібліятэка мае зусім няшмат нацыянальнага. Беларуская мова, беларуская кніга загнаныя там ў маленькі рэзэрват — беларускі аддзел, які неўзабаве зачыняць. Сапраўдная Нацыянальная Бібліятэка — гэта ня проста кніжнае сховішча, але складаная мазгавая сыстэма нацыі. Гэта структура, што выпрацоўвае ўнівэрсальную сыстэматызацыю ведаў, садзейнічае разьвіцьцю навукі, інфармацыі, спрыяе ўдзелу нацыі ў сусьветным інтэлектуальным жыцьці. Калі разглядаць па гэтых парамэтрах сёнешні стан НББ — напрошваецца сумная выснова. Цяпер НББ па сваім ўзроўні й моўнай палітыцы нагадвае хутчэй абласную бібліятэку Расейскай фэдэрацыі, чымся Нацыянальную Бібліятэку эўрапейскай дзяржавы. Сымптаматычна, што на інтэрнэт-сайце НББ ужываюцца толькі расейская і ангельская мовы, пошук у каталёгу і тлумачэньні да яго — толькі па-расейску. Існуе небясьпека, што зь пераездам Бібліятэкі ў новы, пампэзны будынак пад трыумфальныя заявы пра "росквіт культуры" пры Лукашэнку будуць задушаныя рэшткі беларушчыны. Няпэўны лёс чакае стары будынак Бібліятэкі, з якім зьвязаныя часы беларусізацыі, у якім бывалі Купала, Колас, сотні літаратараў і дзеячаў культуры, загінуўшых ад сталінізму. Сёньня Лукашэнка, аматар і вучань Сталіна, працягвае справу вынішчэньня беларускай культуры.

Затым з аглядам падзеяў у Беларусі выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. У сувязі з папярэднім дакладам пра Нацыянальную Бібліятэку ён у прыватнасьці сказаў: «Паўсюль, дзе рэжым Лукашэнкі датыкаецца да нацыянальнай праблемы, ідзе толькі заняпад і разбурэньне. Як было добра сказана, Нацыянальная Бібліятэка гэта найважлівейшая каштоўнасьць і атрыбут суверэнітэту нацыі, паказчык яе сьпеласьці. Зьнікае бібліятэка — зьнікае і цывілізацыя. Так было ў гісторыі, варта ўспомніць хаця-б Александрыйскую бібліятэку ў Эгіпце. У Нацыянальнай Бібліятэцы сканцэнтраваны інтэлект нацыі, на ёй завязаныя адукацыя, навука, інфармацыя, выхад у шырэйшы сьвет. Нацыянальная Біліятэка ёсьць грунт, аснова для далейшага разьвіцьця нацыі. Што-ж сёньня мы бачым у Беларусі? Яе галоўная бібліятэка перанесеная на ўскраек сталіцы, збудаваны монстрападобны бункер, у які цяпер плянуецца хутка перакінуць увесь фонд – каля 8 мільёнаў выданьняў. Перавозы такога кшталту плянуюцца загадзя і займаюць некалькі год. Хто будзе перавозіць? Войска. Дзе гарантыі захаваньня фондаў? Іх няма. Інтэлектуальная праца, зьвязаная зь Бібліятэкай, ужо фактычна спыненая. Рэжым у Беларусі кваліфікуецца як акупацыйны. Гэта акупацыя знутры. Гэты рэжым зьнішчае нацыянальныя каштоўнасьці, супрацьдзеіць нацыянальным інтарэсам. Тое, што сёньня адбываецца зь Бібліятэкай — частка пасьлядоўна сплянаванай палітыкі, пачынаючы ад зьнішчэньня гербу, сьцягу, дзяржаўнасьці беларускай мовы, перапісваньня гісторыі, ліквідацыі беларускага школьніцтва, забароны Скарынаўскіх чытаньняў, перасьледу Саюзу пісьменьнікаў, перайменаваньня вуліц. Гэта ўсё зьвёны аднаго ланцуга, зьнішчэньне падвалінаў нацыянальнай культуры. Робіцца гэта паступова — і паступовасьць прытупляе грамадзкую рэакцыю. Пагроза над культурай стаіць вострa як ніколі, рэжым Лукашэкі спрабуе замазаць народу вочы будоўляй, рамонтам Тэатру Опэры і Балету, адкуль амаль сілком выкінулі артыстаў, і г. д.

Нажаль, структуры Эўразьвязу ня маюць разуменьня ў гэтай справе. Гэта паказвае сытуацыя з перадачамі "Нямецкай Хвалі" на Беларусь. Ня гледзячы на вялікую колькасьць лістоў пратэсту, расейскамоўныя праграмы пакідаюць надалей. Важнасьць мовы як дасягненьня ў развіцьці народу ігнаруецца. Замест каб перадаць справу вяшчаньня на Беларусь больш кампетэнтным у беларускім пытаньні журналістам і радыёстанцыям ва Ўсходняй Эўропе, умовы тэндару канструктуюцца так, каб тэндар выйгралі гіганты кшталту БіБіСі або Франс-Інтэрнасьяналь, якія паняцьця ня маюць пра Беларусь, і якіх Беларусь не цікавіць. Такім чынам, мы змагаемся ў міжнародным пляне. Справа перадачаў на Беларусь яшчэ ня вырашана канчаткова. І нашыя дзеяньні, лісты, звароты — маюць вынік, асабліва калі яны скаардынаваныя, актыўна падтрыманыя шырокім удзелам.

Затым сп. Вячка Станкевіч выступіў з інфармацыяй пра выступы Нацыянальнага Тэатру імя Якуба Коласа зь Віцебску, заклікаў прысутных падтрымаць артыстаў праз наведваньне ладжаных імі ў Нью Ёрку ды іншых гарадох Амэрыкі тэатральных пастановак.

Сп. Антон Шукелойць паведаміў пра перасьлед пратэстантаў у Беларусі, пра зачыненьне Лукашэнкам Рэфармаванай кальвіністкай царквы. Гэтая царква мела багатыя адраджэнскія традыцыі, еймі вернікамі былі такія магутныя асобы беларускага руху, як Антон Луцкевіч, Вацлаў Іваноўскі, Францішак Аляхновіч. Парушэньне свабоды сумленьня ў Беларусі не павінна прайсьці незаўважаным.

У сувязі з прыездам Тэатру імя Якуба Коласа было вырашана перанесьці наступны сход аддзелу на 16 кастрычніка.

***Віталь ЗАЙКА***

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **16 кастрычніка 2005 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:
***401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217***
Пачатак апоўдні, 12:00, пасьля літургіі ў Саборы. Запрашаюцца ўсе, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі. Даезд падземкаю A, C да станцыі ***Hoyt-Shermerhorn St.***, або падземкаю F да станцыі ***Bergen St.***

### Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| У. Волах .30 | Н. Талкачова .30 |
| А. Грыгорчык .30 | М. Цімашэнка .30 |
| В. Малышка .30 | Н. Шашкель .30 |
| Н. Палікарпава .30 | У. Шулаў .30 |
| Н. Панкратава .30 | В. Яскевіч .30 |
| Ю. Парфяновіч .30 | |
| Я. Скрабко .30 | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association*.**

## Новая кніга

**Мікалай ЛАПІЦКІ. У служэньні Богу й Беларусі.** Уступнае слова Вітаўта Кіпеля; укладаньне, прадмова й камэнтары Юрася Гарбінскага, Нью Ёрк – Варшава,2005. 672 + XLVIII c.

**Nicholas LAPITZKI. In the Service of God and Belarus.** Preface by Vitaut Kipel. Edited by Jury Garbinski, New York – Warsaw, 2005. 672 + XLVIII pp.




На пачатку верасьня сёлета ў Нью Ёрку выйшаў том творчай спадчыны вядомага беларускага сьвятара й царкоўна-грамадзкага дзеяча а. Мікалая Лапіцкага. Выданьне ёсьць вынікам навуковага супрацоўніцтва Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку й Інстытута Славістыкі Польскай Акадэміі Навук у Варшаве. Кнігу склалі публікацыі а. М. Лапіцкага, якія былі надрукаваныя ў беларускім пэрыядычным друку на эміграцыі. Зь іншамоўных публікацыяў у выданьне ўлучаны артыкул а. М. Лапіцкага ў польскай мове з часоў ягонай вучобы на багаслоўскім аддзяленьні Варшаўскага ўнівэрсытэту. Зьмешчана ў кнізе таксама й магістарская праца сьвятара „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы", якая была напісаная ў 1934-35 гадох, але асобным выданьнем выйшла толькі ў 1978 годзе ў Нью Ёрку. Дасьледаваньне пераклаў з польскай мовы й падрыхтаваў да друку а. С. Коўш на падставе копіі з арыгіналу, што захоўваецца ў архіве Варшаўскага ўнівэрсытэту.

*Значнае месца ў выданьні адведзенае карэспандэнцыі а. М. Лапіцкага з арх.* Апанасам (Мартасам), арх. Філафеем (Нарко) зь беларускім царкоўна-рэлігійным актывам у ЗША, Канадзе, Заходняй Эўропе й Аўстраліі ды ўспамінам родных і сучасьнікаў пра ягонае жыцьцё й царкоўную-грамадзкую дзейнасьць.

Па сваёй будове кніга складаецца зь сямі разьдзелаў і дадаткаў. Выданьне мае інфармацыйна-даведачны апарат – камэнтары, сьпіс скаротаў, бібліяграфію й іменны паказьнік. Том творчай спадчыны а. М. Лапіцкага багата ілюстраваны здымкамі й архіўнымі дакумэнтамі. Кніга выйшла ў сэрыі „Гісторыя беларускага рэлігійнага жыцьця".

## Каляндар базаўца

*Заканчэньне з бачыны 8*

вонкавай палітыцы ЗША.

Цэнтральным месцам правядзеньня Тыдня ёсьць Нью Ёрк — "сталіца эмігрантаў", дзе пасьля Другое сусьветнае вайны аселі тысячы былых грамадзянаў СССР і краінаў, што трапілі пад камуністычнае кіраваньне, аднак акцыі ТНП праходзілі і ў іншых гарадох ЗША.

Як правіла, у першы дзень тыдня, у нядзелю, адбываецца Парад Паняволеных Народаў: спачатку ад скрыжаваньня 59-е вуліцы й 5-е авэню да катэдры сьв. Патрыка, дзе адпраўляецца служба за паняволеныя народы (сьцяганосцы запрашаюцца да аўтара дзе пакідаюць сьцягі да канца службы), пасьля чаго працэсія скіроўваецца ўверх па 5-й авэню да ўсходняга ўваходу ў Цэнтральны парк і далей да адкрытае сцэны, дзе адбываецца мітынг.

У 1970-я гады Тыдзень замыкаўся яшчэ й мітынгам каля Статуі Свабоды й Амэрыканскага Музэю Іміграцыі. Аблічча акцыяў Тыдня. Каб чытач атрымаў больш поўнае ўяўленьне пра Парад, мусім адзначыць, што між прадстаўнікоў сапраўды паняволеных народаў трапляюцца, скажам, усходнія прусакі, баварцы, якія ўважаюць Усходнюю Прусію й Баварыю паняволенымі краінамі (Усходнюю Прусію — Расеяй, Баварыю — Прусіяй, праўда, ня Ўсходняю, а ўжо Заходняю).

Пасьля 1996 году, калі Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык "прабілі" грамадзянам Беларусі шлях да атрыманьня палітычнага прытулку ў Злучаных Штатах (сьледам за ЗША падобныя рашэньні пачалі прымаць улады шэрагу эўрапейскіх краінаў), у Парадзе Тыдня Паняволеных Народаў пачалі вельмі ахвотна браць удзел нелегалы зь Беларусі — каб засьведчыць акурат сваю неляяльнасьць да ўладаў свае краіны й такім чынам павысіць свае шанцы атрымаць статус палітычнага ўцекача. Дарэчы, у 1996 годзе на маршалка Параду Камітэт Паняволеных Народаў адзінагалосна абраў Зянона Пазьняка.




*Беларуская дэлегацыя сярод удзельнікаў ТПН у 1967 годзе.*

Кіруе правядзеньнем ТПН сталы Камітэт Паняволеных Народаў (Americans To Free Captive Nations, Inc.). Колькі дзесяцігодзьдзяў таму Камітэт быў вельмі прадстаўнічы, прыкладам, у 1971 годзе ў яго ўваходзілі прадстаўнікі 32 народаў.

Тыдзень адзначаўся ня толькі ў ЗША, але і ў іншых краінах, што сталі прыстанкам для тысячаў і тысячаў прадстаўнікоў паняволеных народаў, — у Вялікабрытаніі ды Аўстраліі, дзе беларусы таксама бралі чынны ўдзел у акцыях Тыдня, аднак нідзе беларускі ўдзел ня быў такім актыўным, як у ЗША.

Пачаткова Тыдзень Паняволеных Народаў зьбіраў шматтысячныя маніфэстацыі, але з пачаткам «адпружаньня», натуральна, імпэт пратэстоўцаў істотна зьнізіўся: як і Парад Ляяльнасьці, Парад на ТНП пачаў занепадаць, праўда, з прыходам у Белы Дом Джымі Картэра быў ажывіўся. Дарэчы, у 1978 годзе Картэр падпісаў праклямацыю пра абвешчаньне пачатку ТНП на тыдзень раней — 11 ліпеня (мо каб прыцягнуць да гэтае падзеі ўвагу?), але сам Тыдзень прайшоў у адпаведныя тэрміны.

З зьнікненьнем «сацыялістычнага лягеру», што прывяло да вызваленьня дзясяткаў паняволеных народаў, акцыі Тыдня перасталі быць актуальнымі для бальшыні яго ранейшых сталых удзельнікаў і гэты грамадзкі чын заняпаў, што ёсьць, несумненна, станоўчым фактам, бо сьведчыць — сьвет стаў свабоднейшым, больш талерантным да праяваў іншасьці, схільным шанаваць ня толькі правы асобы, але й правы нацыі.

Але ж БАЗА, не зважаючы на незалежны статус Беларусі, працягвае ўдзельнічаць у Тыдні Паняволеных Народаў, падкрэсьліваючы там самым фармальнасьць сувэрэнітэту краіны. Апошнімі гадамі асноўнаю сілаю Тыдня Паняволеных народаў, апроч заўсёды актыўных у Тыдні беларусаў, сталі тыбэтцы, што карэнным чынам зьмяніла эўрапейскае

### Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

**(па цотных гадох, першы канцатыдзень верасьня)**

Час правядзеньня Сустрэчаў "прывязаны" да Дня Працы (Labor Day) — дзяржаўнага сьвята, пасьля якога панядзелак афіцыйна абвяшчаецца непрацоўным, што дае магчымасьць удзельнікам Сустрэчаў дабрацца дадому й адпачыць перад працоўным тыднем.

Сустрэчы — самыя шматлюдныя імпрэзы беларускае дыяспары ў сьвеце. У 1990-я гады першыя ўдзельнікі Сустрэчаў зь Беларусі ахвотна дзяліліся сваім захапленьнем з пабачанага, не адзін зь іх быў асабліва ўражаны тым, што «вакол цябе сотні людзей — усе размаўляюць па-беларуску й ніхто не гаворыць па-расейску!» Відаць, "рэкорд шматлюднасьці" належыць 19-й Сустрэчы (1996, Кліўлэнд), на якую прыбыло больш за 700 гасьцей, у тым ліку нямала зь Беларусі. Ад пачатку 1990-х БАЗА заўсёды спансаруе прыезд зь Беларусі знаных палітыкаў і дзеячаў мастацтва. Звычайна да Сустрэчы арганізатары (БАЗА або Згуртаваньне Беларусаў Канады) выдаюць падрабязную праграму.

У адрозьненьне ад іншы "каляндарных" імпрэзаў, у межах Сустрэчаў ладзяцца дыскусійныя групы па асобных тэмах. У працы такіх групаў зазвычай бярэ ўдзел большая палова прысутных на Сустрэчы. Тут выпрацоўваюцца калі не канкрэтныя рашэньні, то агульныя падыходы да разьвязаньня тых ці іншых праблемаў.

### Угодкі Слуцкага паўстаньня, або Дзень Беларускіх Герояў

**(21 лістапада)**

Слуцкі збройны чын, або Слуцкае паўстаньне, займае асаблівае месца ў базаўскім, ды й наагул у беларускім палітэміграцкім календары, — яно вельмі сугучнае лёсу гэтых людзей: «Быць пераможанымі, але ня зломленымі. Супрацьстаяць чужаніцы са зброяй у руках, тым сьведчыць пра рашучасьць у намеры бараніць сябе, свой край, сваю свабоду». Так, змагаючыся за сваю Беларусь, пакінуць Бацькаўшчыну, але працягваць жыць дзеля Яе — ці гэтага недастаткова, каб пачуцца духовымі нашчадкамі тых случчакоў?! Гэтае пачуцьцё пераемнасьці й робіць Слуцкае паўстаньне асаблівай падзеяй у базаўскім календары.

***Уладзімер і Нюра Русакі:***

*Угодкі Слуцкага паўстаньня ўпершыню ў Амэрыцы мы адзначылі ў 1949 годзе ў памешканьні Орсаў. У расейскай царкве на Пэнсылвэйнія авэню служыў айцец Краўчанка — бацюшка з-пад Навагрудку. Ён адправіў паніхіду па палеглых, пасьля службы гаварыў да нас па-беларуску. Пасьля паніхіды мы пайшлі да Орсаў. Там былі яшчэ Янка Станкевіч, Янка Ніхаёнак, Гарошкі, Грушы, Рагулі, Даращэвічы, Заморскія. Усяго чалавек 20—25.*

*Помню, як рыхтаваліся да гэтай акадэміі ды Тулейка вучыў сьпяваць гэтых дзяцей — дзяўчат Орсаў [Галіну й Алу], двух Заморскіх. Калі ні зойдзеш у Орсаву хату, то ўсё:*

*А ў полі азерца*
*Там плывала вядзерца.*

*А побач жыла жыдоўская сям'я са старой эміграцыі, паходзілі зь Беларусі, то старыку іхнаму так гэтыя песьні падабаліся, што ён зьвяртаўся да спадара Орсы:*

*— Мне нічога ня трэба, але толькі дазвольце прыйсьці да вас на кухню й паслухаць гэтых песень: я выгадаваўся ў гэтым, і мне так прыемна гэта чуць! Ніхто не пярэчыў, то ён прыходзіў, сядзеў і слухаў.*

У Амэрыцы Слуцкія ўгодкі першы раз адзначалі сапраўды маштабна й урачыста **1 сьнежня 1951 году**:

***Дзень беларускіх герояў у Нью Ёрку***

*Першы раз на амэрыканскай зямлі беларусы так урачыста абыходзілі памяць сваіх паўшых герояў, як гэта зрабілі летась у Нью Ёрку, азначыўшы 31-ыя ўгодкі Слуцкага паўстаньня.*

*Там з гэтае нагоды дня 1-га сьнежня прамаўляў праз нью-ёрскае радыё генэрал Фр. Кушаль. Пасьля яго прамовы беларускі хор пад кіраўніцтвам кампазытара М. Куліковіча выканаў некалькі беларускіх народных і ваяцкіх песень. Наступнага дня ў нядзелю ап. Васілі адслужыў у беларускай праваслаўнай царкве паніхіду за палеглых герояў. Папалудні таго ж дня ў перапоўненым вялікім доме старое беларускае эміграцыі ў Нью Ёрку адбылася жалобная акадэмія. Пасьля першае часткі, якая складалася з прамоваў беларускіх дзеячоў, адбылася мастацкая частка акадэміі з багатай хараявой і салёвай праграмаю беларускіх народных і ваяцкіх песень і песень беларускіх кампазытараў. Акадэмія зрабіла на ўсіх прысутных прыемнае і магутнае ўражаньне******.

Склаўшыся ў Нямеччыне ў лягерах ДП, рытуал правядзеньня гэтае ўрачыстасьці за гады не зьмяніўся: ён заўсёды ўлучаў багаслужбу за палеглых, урачыстую акадэмію, пачостку й меў выразны вайсковы акцэнт, таму ўяўляецца натуральным, што арганізатарам імпрэзаў звычайна выступае Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў — прынамсі там, дзе ёсьць мясцовыя аддзелы арганізацыі. Першыя афіцыйныя запрасіны ад імя ЗБАВ, якія нам удалося знайсьці, пазначаныя 1957-м годам (на 1 сьнежня запрашаў Нью-Ерскі Аддзел ЗБВ; рэфэрат меўся чытаць Францішак Кушаль). А вось, прыкладам, 12 сьнежня 1977 году ў Нью Ёрку адзначэньне Слуцкіх угодкаў ладзіў мясцовы аддзел БАЗА ў беларускім Народным Доме на Атлантык авэню, з асноўным дакладам выступіў Вітаўт Кіпель, у Нью Джэрзі зарганізоўваў імпрэзу мясцовы аддзел ЗБАВ (камандзер Сяргей Гутырчык); з рэфэратам выступіў лейтэнант Уладзімер Курыла.

З цягам часу цэнтральным элемэнтам сьвяткаваньня ў нью-ёрскім мэгаполісе стаў кароткі, але ўрачысты парад — асабліва калі на могілках Іст Брансўік паставілі помнік палеглым за свабоду Беларусі (урачыстае адкрыцьцё адбылося 24—25 траўня 1975 г.).

### Дажынкі

Беларускія Дажынкі ў амэрыканскім календары маюць адпаведнік — Сьвята Ўраджаю (Harvest Holiday); гэты факт спрыяе сталаму адзначэньню Дажынак у беларускіх калёніях, як і амэрыканскі адпаведнік, сьвяткуюцца яны ў самы розны час — у адну зь нядзеляў у верасьні або кастрычніку (праўда, Сьвята Ўраджаю часам адзначаюць нават у канцы жніўня ці на пачатку лістапада). Наколькі нам вядома, першы раз базаўцы ладзілі Дажынкі ў Нью Брансўіку 22 верасьня 1957 году. Менавіта ў Нью Джэрзі гэтае сьвята адзначалася грунтоўна, з канкрэтным вынікам. Гэтак, у Гайлэнд Парку 6 верасьня 1968 году арганізатарам выступіла Жаночая Сэкцыя мясцовага аддзелу; імпрэзу суправаджала аркестра Кастуся Жыдаловіча, а прыбытак пайшоў на выданьне газэты "Беларус". Дарэчы, прыбытак, атрыманы ад дажынкавае забавы 21 кастрычніка 1973 году ў Нью Ёрку, прызначаўся на друк кнігі, што мелася выйсьці з нагоды 25-х угодкаў БАЗА.

У 1970-я гады ладзіць Дажынкі жаночым структурам, якія традыцыйна апекаваліся гэтым сьвятам, пачалі дапамагаць мясцовыя аддзелы АБАМ, як было, напрыклад, 22 кастрычніка 1972 году або 12 кастрычніка 1975 году ў Нью Ёрку ў Беларускім Народным Доме на Атлантык авэню.

У Кліўлэндзе ў 1995 годзе, 29 кастрычніка, экспэрымэнтавалі, спалучыўшы Дажынкі з Гэлаўінам; цікава, што арганізатарам такое "камбінаванае" імпрэзы выступіла парафіяльная рада.

### Новы Год (канец сьнежня)

Гэтае сьвята ніяк нельга назваць традыцыйным для беларускага народнага календара, але за апошнія дзесяцігодзьдзі яно трывала ўвайшло ў побыт беларусаў ня толькі савецкіх і постсавецкіх (як вядома, савецкія ўлады імкнуліся прышчапіць народу Новы Год як альтэрнатыву Калядам, Божаму Нараджэньню), але й амэрыканскіх. Аднак адзначаць яго не ў сям'і, а цэлаю грамадою маюць жаданьня ня ўсе, таму далёка ня кожны год і ня ў кожнай калёніі Новы Год адзначаецца супольна, а тым больш "у час" — менавіта 31 сьнежня.

Прыклад адной з найлепшых сустрэчаў Новага Году — 31 сьнежня 1967-га, ладзіў Нью-Джэрзійскі Аддзел у Liberty Ballroom у Саўт Рывэры. «Вечар меў небывалы посьпех, бо прысутных было 300 чалавек, у тым ліку ладне зь Нью Ёрку й далёкіх ваколіцаў Нью Брансўіку й Саўт Рывэру" (Б-с. №130).

Цікавы факт: у Кліўлэндзе рэгулярна сьвяткуюць стары Новы Год (14 студзеня).

* На жаль, з розных прычынаў беларусам-каталіком удалося стварыць толькі адну свае парафію (усходняга абраду), у Чыкага, хоць гэта, на думку Антона Шукелойця, было цалкам магчыма ў Нью Ёрку ў 1950-я гады, але не адбылося праз супрацьдзеяньне каталіцкіх уладаў.

** Казакі на эміграцыі звычайна выступалі як адметная, асобная ад расейцаў этнічная група. Як ні дзіўна, у беларусаў з казакамі ў ЗША склаліся вельмі прыязныя стасункі, імаверна, з прычыны пэўнага падабенства свайго сталага заданьня - даводзіць сваю адрознасьць ад расейцаў.

*** Упершыню Дзень Маці адзначаўся ў 1870 г. у Бостане, з 1914 г. сьвяткуецца ў цяперашнім "фармаце".

**** Першы раз Дзень Бацькі сьвяткавалі ў 1910 г. у Споўкане (Spokane), штат Вашынгтон, афіцыйна зацьверджанае толькі ў 1972 г.

***** Божым шляхам. 1952. №46. С. [16].

# Адкуль яны, гэтыя нацыяналісты?

## Ці некалькі слоў пра дзівакоў-незалежнікаў

**Прысьвячаю гэты артыкул майму сябру Сьв. памяці Старшыні БЦК у штаце Вікторыя сп. Алегу ШНЭКУ**

*...І чым больш ахвярую́ць даляраў, чым больш запрашаюць чарнобыльскіх дзяцей, тым мацней зьбянтэжанасьць з неабходнасьці зь імі лічыцца... таму што не знайсьці для іх адпаведнай палічкі ні ў сёньняшнім, ні ў мінулым... Ды няўжо магла быць у нас палітычная апазыцыя? Чыталі адныя кнігі, разам глядзелі "Чапаева", разам лавілі шпіёнаў. Адкуль сярод пагалоўна адзіных беларускія нацыяналісты?*

**З фільму: "Востраў Антыподаў. Частка 1. Изменнички" 1994"**

Недзе ў сярэдзіне 2004 году я сустрэўся з былым камсамольскім сакратаром з Украіны, які пасьля першай чаркі пачаў тлумачыць мне аб тым, што 1970-я і 1980-я былі найлепшымі гадамі ў жыцьці савецкіх людзей. Я папрасіў "таварыша" быць больш канкрэтным і вельмі хутка зразумеў, што ён гутарыў толькі аб жыцьці так званай "наменклятуры". Менавіта тых, хто пашырыў індустрыяльныя ідэі сталінскіх "піхалаў" да памераў брэжнеўскага "блатнога" матар'ялізму. Менавіта прадстаўнікі гэтай наменклятуры ганарліва хадзілі ў імпартовых джынсах з кішэнямі поўнымі чэкў ды глядзелі зьверху ўніз на тых, хто зарабляў на жыцьцё сваімі мазалямі. Бо на іх думку яны ўмелі жыць. Як тады казалі – круціцца. А іншыя належалі да простых мужыкоў і мужычак. Як калісьці пры царах, леніных і сталіных.

Дык для каго 70-я і 80-я гады былі найлепшымі? Толькі для іх. Аб гэтым я яму і сказаў. Прыглядзеўшыся да мяне больш пільна "таварыш" зразумеў, што я да наменклятуры ніколі не належаў, знаходжуся тут выпадкова, таму хуценька папрасіў прабачэньня за "памылку" і адыйшоў ад мяне ўбок, як ад ненаменклятурнага клясу. (Былыя прадстаўнікі савецкай наменклятуры ўліваюцца ў аўстралійскае клясавае асяродзьдзе як рыбы ў ваду, бо адчуваюць сябе адразу сябрамі сярэдняй клясы).

"Таварыш", зь якім я сустрэўся, быў ня першым з прыбылых у Аўстралію савецкіх, якія спрабавалі па закарэўшай у іх галаве інэрцыі інтарнацыянальнага думаньня сьціпла зьяднаць сябе з мужыцкімі нізамі й ганарліва падаць наменклятурную савецкую праслойку іншым "некультурным" ў вобліку "адзінага і непарушнага савецкага народу". Як быццам гэтыя лаўкачы таксама будавалі камунізм не адыходзячы ўбок ад маральнага кодэксу "чэснага" будаўніка крывавай бальшавіцкай утопіі. Як быццам яны не "круцілі" сваімі хвастамі ўлева і ўправа ад кароткага курсу КПСС, а дакруціўшы, ірванулі як найхутчэй ў "загніваючы" сьвет капіталізму. Каб жыць яшчэ лепш і прыгажэй. Многія, да слова, прыхапілі з сабою і пажаўцелыя партбілеты (на што ім партбілеты КПСС ў Аўстраліі!!? Ці не для доказу сваёй вялікай утапічнай нікчэмнасьці?).

Але на другім канцы савецкай грамады, якая шалёна будавала ў 70-я і 80-я свой дабрабыт праз кузьню блатных сувязяў жылі нябачныя на першы погляд дзівакі, якія вываліўшыся з пагоні за чэкамі й джынсамі раптоўна падымаліся над гэтым шумам і гвалтам ды пачыналі пісаць пра злачынствы камуністычнага рэжыму, пра шпіталі КДБ, куды пхалі іншадумцаў, пра існаваньне дэмакратыі ў "імперыялістычных" ЗША, нарэшце, пра такія забароненыя ў СССР рэчы, як індывідуальныя каштоўнасьці чалавека.

Вядома, што жыцьцё такіх дзівакоў ў канцы 30-х гадоў скончылася-б вельмі хутка праз тры подпісы кенгурынавага судзілішча-тройкі ды каманду "плі". У 80-я такіх стралялі толькі ў вельмі выключных абставінах, таму дзівакам наменклатуршчыкі хутка і па-партыйнаму смачна ляпілі мянушкі дысыдэнтаў і гнаілі ў машынах з чырвоным крыжом па пустых менскіх вуліцах ў спэцшпіталі спэцдзяржаўнай установы, дзе іх лячылі наркотыкамі ад дзівацтва.

І як навакольлю бачыліся такія дзівакі, як не дурныя? Бо калі нават сама, тады яшчэ моцная КПСС заранья пераганяла партыйнае золата ў "сумесныя" прадпрыемствы, калі амаль увесь савецкі народ "у адзіным стаханаўскім парыве" шалёнымі вачыма шукаў кропкі па продажу золатых вырабаў, то як можна было зразумець дзівакоў? Дурні, адно слова.

Але адкуль яны зьяўляліся? Ці іх скідвалі з самалётаў на занесеныя сьнегам беларускія хутары агенты ЦРУ? Ці іх зь дзяцінства прымусова кармілі чужымі й зусім несавецкімі "галасамі" нейкія варожыя радыёстанцыі? Ці можа іх родны дзядзька (запячатаны навечна ў воблік "ворага савецкага народу") быў сябрам СБМ ці БКА?

Чыталі-ж аднолькавыя кнігі! Глядзелі разам Чапаева! Чаму-ж гэтыя дзівакі не далучыліся да будаўнікоў "сьветлай" сацыялістычна-утапічнай будучыні? Што рабіла іх незалежнымі ад існуючага камуністычнага рэжыму?

Адказ, я думаю, вам вядомы. Такія людзі былі заўсёды. Іх можна назваць незалежнікамі. Іх можна назваць дзівакамі. Іх можна назваць антыкамуністамі ці антынацыстамі. Шмат хто зь іх ня проста жыў у СССР, але вывучаў тое жыцьцё. Пазьней частка гэтых людзей, зразумеўшы жахлівасьць існуючай дыктатуры, з адчаям падыходзіла да дылемы – што рабіць? і пісала крытычныя антыкамуністычныя артыкулы. Іншыя-ж адыходзілі ў больш спакойнае жыцьцё няпрымальнасьці сярод "пагалоўна адзіных" і з насьмешкаю глядзелі на плякаты "Партия – ум, честь и совесть нашей эпохи".

У кнізе The Dictators. Hitler's Germany, Stalin's Russia Рычард Оўвэры піша на старонцы 304: "Нямецкі настаўнік падзяліў сваіх вучняў (у Нямеччыне 1939-га, В.К.) на катэгорыі, да якіх можна аднесьці і ўсё нямецкае грамадзтва. Адныя школьнікі з энтузіязмам прымалі "тэорыі герояў" нацыянал-сацыялізму і чакалі на прыход нават больш радыкальнай хвалі нацыянальнай рэвалюцыі. Матар'яльна-рэалістычна арыентаваная большасьць аднак жадала супрацоўніцтва з нацыянал-сацыялістамі для паляпшэньня свайго працоўнага статусу. Нарэшце заставалася малая колькасьць хлапчукоў, якія адмяжоўваліся ад рэжыму і якія, не бачачы вялікіх магчымасьцяў у барацьбе з рэжымам, "хаваліся" ў сваім прыватным жыцьці й чыталі кнігаў".



**Алег ШНЭК (у скаўцкай уніформе) зь сябрамі па прыезьдзе ў Аўстралію.**

Ці не тое-ж самае адбывалася ў "самай лепшай" краіне іншай дыктатуры, якая пад сталінскімі сьцягамі брукавала шлях-дрыгву да камуністычнай утопіі касьцямі сваіх жыхароў?

Сьветлай памяці Паўла Гуз казаў мне (Мэльбурн, 2002): "Пры немцах (падчас 2-ой Сусьветнай вайны. В.К.) зьявіліся жадаючыя падкарміцца пры нямецкай "нацыскай кухні". Іх было шмат. Але ня трэба забывацца і на жадаючых будаваць беларускае нацыянальнае жыцьцё ў неверагодна цяжкіх абставінах акупацыі... Іх было менш..."

Гэтая, адзначаная прафэсарам Оўвэры і Паўлам Гузам, малая колькасьць незалежнікаў-дзівакоў крочыла з трывожнымі думкамі на барацьбу зь нянавісным рэжымам ці то сталінскай, ці то нацыскай дыктатуры. Я думаю, шмат хто зь іх разумеў, што змагацца за свае нацыянальныя ідэі супраць адной дыктатуры ў шэрагах другой не давала ім вялікіх шанцаў на перамогу, але сам факт магчымасьці змаганьня меў сэнс і даваў надзею. Ці не аб беларускай вольнасьці марыў Кастусь Каліноўскі ідучы на калябарацыю з польскімі нацыяналістамі ў барацьбе з расейскім імпэрыялізмам?

У 1864-м сябрамзмагарам К. Каліноўскага прыйшлося перабірацца ў Эўропу, каб хавацца ад мураўёвых-вешальнікаў. У 1945-м, іншы, але ня менш ненавісны рэжым рукамі НКВД вышукваў названых імі "калябарантаў" па лягерох ДП Нямеччыны. Зноў беларускія патрыёты прымушаны былі хавацца.

Ня маючы тут шмат месца на распрацоўку тэмы калябарацыі я падам чытачу словы Алега Шнэка (відэазапіс 27-03-04): "Было зроблена (Сталіным. В.К.) усё для асіміляцыі. Зараз вынікі мы бачым. Зноў пачалася калябарацыя пры Лукашэнку. Вось гэта ёсьць калябаранты! Якія працуюць на лукашэнкаўскі ўрад і на расейскую фэдэрацыю. На саюз з расейскай фэдэрацыяй. Мы мусім пражыць найменш 50 гадоў самастойна. Без ніякіх саюзаў і ніякіх дамоваў".

Народжаным пад няспынную прапаганду КПСС беларусам, ня проста ўбачыць у замазаным бальшавікамі чорнаю фарбаю агульным вобліку калябаранта твары актыўных беларускіх змагароў за лепшую будучыню свайго народу. Але менавіта такія як яны, раней ішлі ў шэрагах Кастуся Каліноўскага, потым біліся за праўду ў беларускай Грамадзе пад Польшчаю, ехалі на 2-гі Ўсебеларускі Кангрэс пры Астроўскім, сьпявалі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." ў Ватэнштэце, арганізоўвалі беларускія нацыянальныя асяродкі ў Аўстраліі, а сёньня ахвярна змагаюцца з рэжымам Лукашэнкі ў шэрагах БНФ.

Так, іх можна выкрэсьліць з школьных падручнікаў прасавецкай дыктатурнай акадэмічнай сыстэмы сёньняшняй Беларусі, але ніхто і ніколі ня зможа зьнішчыць прыпамянутых прафэсарам Оўвэры і Паўлам Гузам дзівакоў-беларусаў, якія ў розных краінах сьвету пачалі адраджаць беларускую нацыянальную ідэю пасьля заканчэньня 2-ой Сусьветнай вайны. Якія падчас савецкага ізаляцыянізму тлумачылі ўсяму сьвету аб існаваньні краіны пад назваю Беларусь, а не БССР.

Нажаль, іх менш за жадаючых жыць "пры кармушцы". Груба падлічана, што на іміграцыі да працы беларускіх арганізацыяў далучаецца толькі 5-7% прыехаўшых на чужыну беларусаў. Напалоханыя савецкай прапагандай аб беларускіх нацыяналістах прасавецкія імігранты 90-х гадоў хутка губляюцца ў аўстралійскім жыцьці й сустракаюцца з сваймі наменклятурнымі сябрамі толькі за чаркай гарэлкі, пасьля якой яны пачынаюць сьпяваць толькі тыя песьні, якім іх калісьці навучылі ля піянерскіх вогнішчаў. Яны шкадуюць аб добрым савецкім жыцьці ў 70-я і 80-я. Потым сядаюць у японскія і амэрыканскія джыпы і едуць у свае адэляйдзкія катэджы ля заліву Сьвятога Вінцэнта. Але аб іх ніхто амаль нічога ня ведае. Бо яны жывуць жыцьцём сваёй былой наменклятурнай групоўкі.

Такія-ж дзівакі, як Алег Шнэк не шкадуючы свайго часу доўгія гады нястомна працавалі на ніве беларускай нацыянальнай ідэі на пякотнай аўстралійскай зямлі. У той час калі Клуніцкі, Ролсан, Раецкі, Сідлярэвіч, Нікан, Лужынскі і іншыя закладалі беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Аўстраліі, маладыя (у той час) беларусы: Алег Шнэк, Аўген Груша, Павал Гуз, Алесь Грыцук арганізоўвалі ў Мэльбурне беларускі скаўтынг, потым удзельнічалі ў працы беларускіх нацыянальных арганізацыяў, паступова перабіралі ў свае рукі кіраўніцтва ад вышэй памянутых актыўных беларусаў і цягнулі гэтую працу далей.

Апартуністы заўсёды былі й будуць ў любой краіне. Але і дзівакі-незалежнікі таксама. Першыя будуць казаць іншым пра тое, як трэба выгадна "круціцца", уладкоўвацца да кармушкі і рабіць грошы. Другія будуць класьці напрацаваныя сваймі мазалямі грошы ў скарбонку беларускай вызвольнай ідэі на выгнаньні. Менавіта іх прозьвішчы мы будзем памятаць і менавіта пра іх мы некалі будзем пісаць кнігі.

**Віктар КАВАЛЕЎСКІ, Аўстралія**

# Рэцэнзіі ✧ Новыя кнігі

**Аляксандар ЛУКАШУК. Прыгоды АРА ў Беларусі.** (Бібліятэка Свабоды. ХХІ стагодзьдзе). Выд. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. 500 ст.




Кніга прысьвечаная малавядомай старонцы ў гісторыі Беларусі — дзейнасьці Амэрыканскай Адміністрацыі Дапамогі (American Relief Administration), недзяржаўнай амэрыканскай арганізацыі, што аказвала гуманітарную дапамогу Савецкай Расеі пасьля Першай сусьветнай вайны, у 1920-1923 гг. Калі ў выніку Першай сусьветнай і Грамадзянскай вайнаў ад 10 да 20 мільёнаў людзей пад бальшавіцкім панаваньнем аказаліся пад пагрозаю сьмерці ад голаду, амэрыканскі ўрад прапанаваў дапамогу, ня гледзячы на тое, што ЗША не прызнавалі бальшавіцкі рэжым. У жніўні 1921 году пры пасярэдніцтве М. Горкага і Г. Гувэра ў Рызе было дасягнутае пагадненьне, па якім адмысловая створаная амэрыканская адміністрацыя (АРА), якую ўзначаліў Гэрбэрт Гувэр, абавязвалася дастаўляць харчовыя рэсурсы й распаўсюджваць іх сярод галадаючага насельніцтва. Савецкія ўлады абавязваліся забясьпечыць сховішчы й перавозку. Адным з пунктаў дамовы была незалежнасьць структураў АРА ад мясцовых уладаў у Расеі, якія, у сваю чаргу, мусілі ўсяляк спрыяць дзейнасьці арганізацыі.

У пэрыяд дзейнасьці АРА ў Расеі гэта была не адзіная амэрыканская арганізацыя, што дапамагала галадуючым людзям. Таксама дзейнічалі гуманітарныя місіі квакераў і Амэрыканскага габрэйскага размеркавальнага камітэту (Джойнт), некаторыя іншыя арганізацыі. Але маштабы й умовы дзейнасьці розьніліся — АРА мела непараўнальна большы памер апэрацыяў і дзейнічала самастойна. У дзьвух іншых арганізацыях камуністычныя ўлады фактычна перанялі кіраваньне, размяркоўваючы сродкі па "клясавым" прынцыпе, вырашаючы, каму дапамагаць, а каму не.

Ад самага пачатку сваёй дзейнасьці мясцовыя камітэты АРА сутыкнуліся зь цяжкасьцямі як арганізацыйна-побытавага, так і палітычнага пляну. Стаўленьне Савецкі улады на месцах ды ейных прадстаўнікоў было часта адкрытым сабатажам. Хоць паступова праца наладзілася, а бальшавікі й амэрыканцы навучыліся суіснаваць адно з адным, але канфлікты па віне савецкага боку не спыняліся ўвесь час дзейнасьці АРА.

Дапамога АРА ў 1922 годзе прыйшла таксама ў Беларусь, якая пасьля 5-гадовага пэрыяду войнаў апынулася на мяжы гуманітарнай катастрофы. Акурат у гэты-ж час па Рыскай дамове паміж Расеяй і Польшчай Беларусь была падзеленая на дзьве часткі. У Заходняй Беларусі АРА пачала дзейнічаць яшчэ ў 1919 годзе, даючы харчовыя прадукты, лекі, прышчэпкі мясцоваму насельніцтву. Падчас Першай сусьветнай вайны больш за 2 мільёны жыхароў Беларусі змушаныя былі, часта прымусова, пакінуць свае месцы жыхарства. І вось цяпер праз мяжу, пераважна ў заходнім кірунку, штодня праходзілі тысячы былых уцекачоў, што вярталіся з апанаваных голадам і эпідэміямі ўнутраных губэрняў Расеі. У лягерох уцекачоў каля Менску жылі некалькі дзясяткаў тысяч асобаў, што вярталіся ў родныя мясьціны. Не хапала харчоў, шалела эпідэмія тыфусу. З цягнікоў штодня здымалі тысячы трупаў. Пачынаючы ўцекачам і шпіталям, АРА праз свой менскі камітэт распаўсюдзіла дзейнасьць на насельніцтва ўсіх беларускіх губэрняў пад савецкім кіраваньнем.

У выніку панаваньня бальшавікоў у Паволжы й іншых мясьцінах пашыраўся голад. У гэты-ж самы час Савецкая Расея экспартавала збожжа, і пад маркай канфіскацыі царкоўных каштоўнасьцяў змагалася з уплывам праваслаўнай царквы ды іншых рэлігійных арганізацыяў, зьнішчала ейныя структуры. Беларусь мусіла дапамагаць Паволжу, адсылаць сваё зерне і прымаць у сябе сіротаў з усходу. У тых умовах падтрымка АРА стала незаменнай. Дапамога ішла праз распаўсюджаньне пасылак АРА, і пазьней праз непасрэдную падтрымку дзіцячых дамоў, прытулкаў, шпіталёў. За час працы АРА ва Ўсходняй Беларусі дапамога перавысіла 14 тысяч тон харчоў, лекаў і абсталяваньня. Больш за мільён чалавек атрымалі прышчэпкі супраць тыфусу ды іншых хваробаў. У ліку атрымальнікаў дапамогі АРА былі выдатныя беларускія дзеячы культуры, навукоўцы — Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Я. Лёсік, У. Ігнатоўскі, Ц. Гартны, А. Смоліч, У. Галубок, Е. Міровіч, М. Байкоў, С. Некрашэвіч, А. Паўловіч, А. Сапуноў, М. Азбукін ды шматлікія іншыя. АРА часта была адзінай дапамогай для т. зв. "лішэнцаў", былых прадстаўнікоў шляхотных клясаў ды інтэлегенцыі, якіх пазбавілі "пайкоў".

З палітычных прычынаў высакародныя дзеяньні АРА і ейнага кіраўніка Г. Гувэра ў савецкія часы заўсёды замоўчваліся або паліваліся брудам. Гэта вельмі нагадвае сёнешнюю пазыцыю рэжыму Лукашэнкі ў адносінах гуманітарнай дапамогі з-за мяжы. Матывацыя такая: калі дапамога прыходзіць не з рук генэтычнага нашчадка бальшавікоў Лукашэнкі, дык народ не павінен атрымліваць яе наагул. Лукашэнка, як некалі бальшавікі, таксама хоча быць адзіным дабрадзеем беларускага народу, ну а калі "акулы капіталізму" з розных дабрачынных фондаў не схочуць аддаваць рэжыму свае падарункі, калі пакрыўдзіцца і не дашлюць лекаў ці мэдабсталяваньня — дык і гары яно гарам, маўляў, "наш гераічны народ яшчэ і ня тое цярпеў". Гэтай матывацыяй выдатна тлумачацца ўсе дэкрэты і забароны рэжыму Лукашэнкі ў адносінах да замежнай дапамогі, якая апошнім часам значна скарацілася і можа спыніцца наагул. Манаполія на разьмеркаваньне была для бальшавікоў важней за ратаваньне жыцьцяў паміраючых ад голаду. Манаполія на разьмеркаваньне сёньня ёсьць для Лукашэнкі важней за дабрабыт і здароўе сваіх грамадзянаў.

Кніга А. Лукашука, напісаная на падставе архіўных матар'ялаў, зьяўляецца каштоўнай працай па гісторыі малавядомага пэрыяду гісторыі Беларусі, робіць больш зразумелым жыцьцё беларусаў напачатку 1920-х, паказвае ўмовы, у якіх ішла саветызацыя насельніцтва, стваруўся новы тып кіраваньня, новы тып кіруемых. Важная тэма ў кнізе: беларуска-амэрыканскія адносіны, падваліны якіх закладаліся ў той нялёгкі час. Дарэчы пазьней, пасьля Другой Сусьветнай вайны, амэрыканцы зноў дапамагалі Беларусі — праз арганізацыю UNRRA, пра якую вядома нават менш, чым пра АРА.

Кніга напісаная папулярным стылем і мае шмат фотаілюстрацыяў. Нажаль, у кнізе няма спасылак, хоць гэта, пэўна, тлумачыцца яе папулярным жанрам. У сьпісе літаратуры чамусьці адсутнічае згадка пра выйшаўшую ў Стэнфардзе ў 2002 годзе кнігу Бэртрана Патэно «Вялікае шоў у Бальшэвіі», якая таксама карыстае дакументы АРА з Інстытуту Гувэра і расейскіх архіваў, і мае разьдзелы, прысьвечаныя АРА ў Беларусі.

Паліграфічнае выкананьне і дызайн кнігі — на самым высокім узроўні. І зьмест, і афармленьне — без сумніву дасягненьне ў наш час, калі беларускай кнізе на Бацькаўшчыне няма вольнага ходу. Кніга працягвае сэрыю Радыё Свабода «Бібліятэка Свабоды». Наагул выдавецкая дзейнасьць Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода робіцца адметнай зьявай беларускай культуры.

**В. ЗАЙКА**

---

**Ларыса ГЕНІЮШ: *Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны (1945—1983)*.** Менск, Лімарыюс, 2005. - 448 с.

У кнізе сабраныя ў храналягічным парадку 355 лістоў Ларысы Геніюш да розных адрасатаў — сваякоў, Міколы Ермаловіча, Максіма Танка, Адама Мальдзіса, Дануты Бічэль, Зоські Верас, Часлава Найдзюка, Раісы Жук-Грышкевіч, Міколы Скабея. Гэтыя людзі жылі ў Беларусі й Летуве, Аўстраліі й Чэхіі, ЗША і Канадзе, Польшчы.

Укладальнік кнігі Міхась Скобла ў пасьляслоўі папярэджвае, што "выданьне... не прэтэндуе на поўны збор лістоў за азначаны пэрыяд: (1945—1983), тут сабрана — і гэта варта падкрэсьліць — выбраная перапіска. Далёка ня ўсе лісты выяўленыя, а нават тыя, якія маюцца ў нашым распараджэньні, маглі-б скласьці ўдвая большы корпус тэкстаў".

***Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы" (The history of the belarusian nation and state)*.** - Менск, выд. Зьміцер Колас. 440 с.

Гэта другое, дапоўненае выданьне кнігі, выдрукаванай Згуртаваньнем беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Кніга выйшла адразу двума мовамі — па-беларуску і па-ангельску, а сярод аўтараў дасьледчыкі замежжа і грамадзкія дзеячы — Наталля Гардзіенка, Радзім Гарэцкі, Уладзімер Конан, Арсен Ліс, Алена Макоўская, Лідзія Савік, Віктар Скарабагатаў, Ганна Сурмач, Алег Трусаў ды інш.

Кніга складаецца з гістарычных артыкулаў па розных кірунках: "Нацыя", "Дзяржаўнасьць", "Культура". У "Дакументах і матэрыялах" друкуюцца "Паданьне пра Рагнеду", "Аповесьць пра Ўсяслава Чарадзея", "Пахвалу Вітаўту", дакумэнты з антырасейскіх паўстаньняў XIX ст., "Лісты з-пад шыбеніцы" Каліноўскага, Устаўныя граматы і Статут Рады БНР.

Выданьне прэзэнтацыйнае і разьлічана ў першую чаргу на замежнікаў. У тым ліку і для іх друкуецца "Гісторыя Беларусі ў табліцах і схемах", а таксама сьпісы полацкіх князёў, вялікіх князёў літоўскіх, гетманаў і канцлераў ВКЛ.

Кніга выйшла дзякуючы падтрымцы спн. Ірэны Каляда-Смірновай з ЗША.

По даведкі зьвяртайцеся на e-mail: *zbsb@lingvo.minsk.by*

**Ірына ВАРАБЕЙ. *Там, дзе сэрца маё:*** Публіцыстыка, пераклады, апавяданьні. Менск: Бел. кнігазбор, 2005. - 124 с.

Шостым выданьнем у сэрыі "Бібліятэкі ЗБС "Бацькаўшчыны" стала кніга Ірыны Варабей з Таронта "Там, дзе сэрца маё". У кнігу ўвайшлі апавяданьні, эсэ, пераклады. Ураджэнка Менску Ірына Варабей пакінула Беларусь пры канцы 1990-х. Цяпер яна сакратар БІНІМу ў Канадзе й чалец рэдкалегіі газэты "Беларускае Слова".

У прадмове да манаграфіі пісьменьніца Вольга Іпатава зазначае: "Нават калі-б Ірына Варабей напісала ўсяго толькі адзін аповед, які завецца "Брат родны. Брат малочны", — я без аніякіх ваганьняў дала-б ёй рэкамэндацыю ў Саюз беларускіх пісьменьнікаў... Яе творы — гэта заўсёды згусткі болю й любові. Яны адкрываюць сьвет непаўторны й чуйны, шматколерны й нераўнадушны. Гэта проза вельмі сучаснае жанчыны, што ведае кампутар, чытае эзатэрыку й глядзіць у мінулае вострым позіркам зацікаўленага дасьледніка, які пралічвае хады нацыі й яе памылкі ці беды як у мінулым, так і ў будучыні".

Па даведкі зьвяртайцеся на e-mail: *zbsb@lingvo.minsk.by*

**У. К.**



***УДАКЛАДНЕНЬНЕ: сёлета ў жнівеньскім 511-м нумары "Беларуса" ў некралёгу аб сьв. пам. Яніне Каханаўскай была зробленая памылка. Яна нарадзілася ў 1909-м годзе, а не 1905-м, як было пададзена.***

Беларусь, што сёньня апынулася пад мацнеючым зь дня ў дзень ціскам дыктатуры, якая набывае ўсё больш рысаў таталітарнага рэжыму – як ніколі патрабуе прыкладаў чалавечае мужнасьці, волі да змаганьня, аптымізму, веры ў перамогу. Зь нядаўняй гісторыі нам вядомыя імёны беларусаў, што мелі такія рысы — Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш, Янка Філістовіч, Міхась Кукабака, Уладзімер Караткевіч, Мікола Ермаловіч.

Былі такія людзі й сярод іншых сыноў нашае зямлі — беларускіх гэбраяў. Адным з цікавых выпадкаў чалавечае трываласьці, пераканананасьці ў сваіх поглядах і супраціву велізарнай машыне таталітарнай дзяржавы ёсьць жыцьцё матэматыка і астранома сп. Матэса Агрэста. Сёньня гэты чалавек жыве тут, у Амэрыцы, у Чарлстане (Пауд. Караліна). А пачыналася ягонае жыцьцё ў мястэчку Княжыцы Магілёўскай губэрні. Матэс Агрэст нарадзіўся ў 1915 годзе ў шматдзетнай сям'і мэламэда (настаўніка) традыцыйнай гэбрайскай школы — хэдэру. Магілёўшчына і Віцебшчына здаўна былі апірышчам Хабаду, рацыянальнай плыні ў хасыдызме (мадыфікаваны кшталт юдэйскай рэлігіі), якая атрымала назоў "беларуска-літоўскі", або "любавіцкі" хасыдызм, па назве мястэчка Любавічы Магілёўскай губерні, рэзыдэнцыі галавы Хабаду.

# Ад Магілёўскай губэрні да Паўднёвае Караліны:

## шлях Матэса Агрэста даўжынёй у жыцьцё

Атрымаўшы традыцыйную пачатковую адукацыю, Матэс Агрэст паступіў у любавіцкую ешыву, якая была тут-жа ў Княжыцах. У гэты самы час адбывалася саветызацыя ўсяго ладу жыцьця як беларусаў так і гэбраяў, яўсэкцыя змагалася з "рэлігійнымі забабонамі", пачыналася калектывізацыя, мацнела сталінская дыктатура. А тут група юнакоў праводзіць дні, месяцы, гады над трактатамі гэморы (талмуду), абмяркоўвае выказваньні мудрацоў старажытнасьці, далікатныя падрабязнасьці рытуалу. Матэс асабіста пазнаёміўся з тагачасным Любавіцкім рэбэ Ёйсэф-Іцхакам Шнеерсонам, калі той наведаў ешыву. У канцы 1920-х гадоў усе лідары Хабаду былі арыштаваныя Саветамі, але пад ціскам сусьветнай грамадзкасьці ім было дазволена выехаць за мяжу.

Нягледзячы на складаныя ўмовы і даносы, якія культываваліся бальшавіцкім рэжымам, Матэс здолеў у 1930 годзе скончыць ешыву і атрымаў рабінскае высьвячэньне. Але ў Беларусі, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, гэта быў год т. зв. "вялікага пералому", сталінскай палітыкі індустрыялізацыі, пераўтварэньня грамадзтва і вывядзеньня новага кшталту чалавека — савецкага актывіста-ўдарніка. Для рабінаў працы нідзе не было, а неўзабаве і за адно рабінскае пасьведчаньне можна было трапіць за краты. Лёс закінуў хлопца ў Ленінград, дзе ён стаў працаваць токарам на заводзе. Сусед па інтэрнаце рыхтаваўся да паступленьня на рабфак Ленінградскага ўнівэрсытэту, і Матэс таксама зацікавіўся навукамі. У ешыве вывучаўся толькі талмуд, біблійныя камэнтары, арамейская мова і падобныя прадметы, зь сьвецкіх навукаў была толькі арыфмэтыка ў памеры пачатковай школы. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў звычайнай сьвецкай школе Матэс ня быў ані дня, амаль зусім ня ведаў расейскай мовы. Хлопец засеў за падручнікі, і шматгадовая практыка гэбрайскага навучаньня дала плён — за год былі пройдзеныя курсы гісторыі, матэматыкі й прыродазнаўчых навук у памеры сярэдняй школы. Расейская мова заставалася цяжкім прадметам. Падчас іспытаў Агрэст бліскуча паказаў сябе ў матэматыцы й гісторыі, але праваліў іспыт па расейскай мове. Камісія, бачачы надзвычайныя здольнасьці, вырашыла зрабіць нестандартны крок: Агрэст быў прыняты з фармулёўкай "прыняць у выглядзе выключэньня, залічыць расейскую мову як замежную".



*На здымку: сп. Матэс АГРЭСТ з сынам Эммануілам.*

Ва ўнівэрсытэце падчас вучобы на матэматыка-механічным факультэце, Матэс зацікавіўся астраноміяй, і па сканчэньні ЛДзУ трапіў у асьпірантуру Інстытуту астраноміі пры Маскоўскім унівэрсытэце. У часы асьпіранцтва Матэс падрабляў у Бібліятэцы імя Леніна, разьбіраючы й апісваючы сярэднявечныя манускрыпты араба-гэбрайскіх паэтаў з Гішпаніі. Неўзабаве пачалася вайна, лейтэнант Агрэст стаў камандзёрам узводу аэрастатаў загараджэньня пад горадам Горкім. Аднойчы, дзеля таго, што мэтэацэнтар ня даў навальнічнага папярэджаньня, падчас навальніцы два аэрастаты спаліла маланкай. Лейтэнант Агрэст за чужыя грахі трапіў у штрафбат, што было адназначна сьмерці. Уратаваў выпадак — калі іхную частку перад наступам наведаў генэрал, ён выпадкова разгаварыўся з Агрэстам, падзівіўся ягоным ведам і загадаў неадкладна перавесьціся ў іншую частку. У той самы дзень рота, у якой да гэтага быў Агрэст, пайшла ў бой. Раніцай ў жывых зь яе не засталося ніводнага чалавека. Агрэст працягваў службу і напачатку 1945 году быў цяжка паранены.

Скончыўшы вайну капітанам, Агрэст аднавіў вучобу ў асьпірантуры і абараніў дысэртацыю пра кольцы плянэты Сатурн. Часы для гэбраяў былі нялёгкія, пачыналася барацьба з "касмапалітамі", і да таго-ж у анкетах паўсюль стаяла пра ягоную "рэлігійную адукацыю". Да таго-ж Агрэст быў хіба ўнікальны для свайго асяродзьдзя і кшталту дзейнасьці гэбрай у СССР, які праз усё жыцьцё, за выключэньнем часу вайны, здолеў даглядзець усе прыказаньні й забароны гэбрайскай рэлігіі. Ён не ўжываў сьвініны, кожную раніцу маліўся з талесам і тфілн, насіў шапачку-"цюбіцейку" і не рабіў працы ў суботу. У канцы 1940-х ён стаў працаваць у інстытуце матэматыкі, дзе яму прапанавалі новую працу, якая аказалася матэматычным абслугоўваньнем савецкага праекту вадароднай бомбы, у сакрэтным горадзе Арзамас-16 каля Сарова. Пераехаўшы ў Арзамас, Агрэст стаў працаваць пад кіраўніцтвам акадэміка Якуба Зэльдовіча (дарэчы, родам зь Менску), разам з будучым акадэмікам Андрэям Сахаравам.

Аднойчы ў суботу, падчас абмеркаваньня разьлікаў аднаго праекту, узьнікла праблема. Зэльдовіч папрасіў правесьці на дошцы падрабязны перагляд матэматычных вылічэньняў. Узяць крэйду ў рукі, пісаць на дошцы ў суботу — парушэньне рэлігійнага прыказаньня аб суботе. Як ні спрабаваў Агрэст растлумачыць, дзе ўзялася памылка, не беручыся за крэйду — Зэльдовіч настойваў. Нарэшце Агрэст сказаў: «Пісаць цяпер не магу — памарозіў пальцы. Калі хочаце, я прадыктую». Цяпер невядома, ці настойлівасьць акадэміка была проста выпадкам, ці Зэльдовіч здагадваўся пра набожнасьць Агрэста, і хацеў пераламіць супрацоўніка, змусіць адмовіцца ад практыкаваньня рэлігіі «у рабочы час». Але перакананьні, закладзеныя ў дзяцінстве і юнацтве, аказаліся мацнейшыя нават за нівэліруючы ціск савецкай сыстэмы.

Калі ў Агрэста ў сакрэтным Арзамасе (Сароўску) нарадзіўся трэйці сын, натуральным рухам бацькі было зрабіць, каб па звычаях продкаў быў абрэзаны, як і два іншыя сыны. Раптам праз некаторы час пасьля гэтага Матэс Агрэст атрымаў паведамленьне — пакінуць Арзамас-16 за 24 гадзіны. Дзякуючы стараньням акадэміка Капіцы гэты тэрмін удалося працягнуць да тыдня. Але ўдар быў моцны, і дасёньня дакладна невядомая прычына такога загаду. Найбольш верагодна, што згодна з лёгікай МГБ і антысэміцкай палітыкай уладаў, інстытут, які непасрэдна кантраляваў і курыраваў Берыя, ня мог мець сярод супрацоўнікаў такой ненадзейнай і "несавецкай" асобы, што дазваляе сабе верыць у Бога, і горш — захоўваць рытуалы юдэйскай рэлігіі. Уся вялікая сям'я Агрэста мусіла зьехаць, і знайшла прытулак ажно ў Сухумі, у Абхазіі. Там уладкаваліся на працу і пражылі амаль 40 год.

Матэс Агрэст стаў загадчыкам вылічальнай лябараторыі Фізіка-Тэхнічнага Інстытуту. Увесь час ён захоўваў прыцягненьне да астраноміі й астрафізікі, зацікавіўся праблемаю палеакантактаў — гіпотэзай пра магчымыя кантакты жыхароў нашай плянэты ў мінулым з іншаплянэтчыкамі, якая тлумачыць гэткія нявысьветленыя зьявы, як фігуры ў пустэльні Наска, фрэскі Тасілі, плятформу ў Баальбэку ды інш. Агрэст зацікавіўся біблійнымі легендамі, якія адлюстроўваюць магчымыя праявы палеакантактаў, у прыватнасьці зьместам апакрыфічнай Кнігі Эноха. Ягоны артыкул "Касманаўты старажытнасьці" (1961) даў штуршок да ўзьнікненьня ў Савецкім Саюзе цэлай галіны неафіцыйных досьледаў — уфалёгіі (вывучэньня неапазнаных лятаючых аб'ектаў), якая замоўчвалася і перасьледвалася ўладамі (з чаго аднак не вынікае, што гэта ёсьць сапараўды навуковая дысцыпліна). Пасьля артыкулу Агрэста і ягоных лекцыяў аб палекантактах сталі выходзіць фантастычныя раманы пра іх (напрыклад, А. Казанцава), а таксама фільмы — такія, як славуты фільм Эрыха фон Дэнекена "Успаміны аб будучыні".

У 1992 годзе, калі Савецкі Саюз спыніў існаваньне, а на Каўказе пачаліся лякальныя войны, сям'я Агрэста літаральна пад кулямі эвакуявалася з Сухумі й потым пераехала ў Амэрыку. Новым домам стаў штат Паўднёвая Караліна, горад Чарлстан, дзе атабарыліся сыны і дачка М. Агрэста. Ужо ў адвансаваным веку навуковец мусіў прызвычайвацца да новай краіны, да новага ладу жыцьця. Але ня кінуў сваіх досьледаў, браў удзел у кангрэсах па незямных цывілізацыях, што праходзілі ў Нэвадзе і ў Флярыдзе. Вось як напісаў пра Агрэста ў сваёй кнізе славуты астрафізік Язэп Шклоўскі: "Ён і сёньня пагружаны ў свае досьледы, верачы ва ўласную, заснаваную на Торы, інтэрпрэтацыю старажытных аповядаў. Багаслаўлёны той, хто захаваў сваю веру! Матэс Агрэст — рэдкі прыклад шчасьлівага чалавека ў наш жудасны век".

***Зьміцер ПАРЭЦКІ***

**P. S. Матэс АГРЭСТ памёр 20 верасьня 2005 году.**

# ЗША — Беларусь — Баўгарыя

Добрай традыцыяй Згуртаваньня "Бацькаўшчына" стала правядзеньне літаратурна-мастацкіх конкурсаў. У пачатку 2005 году, разам з распачатай падрыхтоўкай да Чацьвёртага зьезду беларусаў сьвету, быў абвешчаны шосты літаратурна-мастацкі конкурс "Там, ля сівых мурoў". Конкурс быў прысьвечаны беларускім дзеячам і арганізацыям Вільні канца XIX — пачатку XX ст. і 300-годзьдзю Францішкі Уршулі Радзівіл. Сачыненьні й малюнкі йшлі на "Бацькаўшчыну" з розных рэгёнаў Беларусі, ад беларускіх дзяцей зь Летувы, Латвіі й Расеі.

У якасьці падарунка і заахвочваньня да далейшай творчай працы, пераможцы конкурсу ў складзе дзьвюх групаў правялі незабыўныя 15 дзён на ўзьбярэжжы Чорнага мора, у гасьціннай і сонечнай Баўгарыі. А насычаную культурную праграму для дзяцей забясьпечылі выхавацелі зь ліку маладых і найбольш актыўных сяброў «Бацькаўшчыны». Праграма адпачынку будавалася на славутых датах і падзеях беларускай гісторыі. Супрацоўніцтва паміж дзецьмі, вопыт каманднай дзейнасьці дасягаліся падзелам на зьвязы, якім самыя дзеці на пачатку адпачынку прыдумвалі назвы, харугвы й дэвізы. Менавіта такімі зьвязамі-камандамі дзеці ўдзельнічалі ў спартовых спаборніцтвах, гістарычных віктарынах і гульнях.

Мэцэнатам конкурсу і дзіцячага адпачынку ўжо які год запар стала ганаровая сяброўка "Бацькаўшчыны", сталы паплечнік арганізацыі, беларуска з ЗША Ірэна Каляда-Смірнова. Без яе мэтанакіраванай і руплівай працы таленавітыя дзеці не змаглі-б атрымаць такі каштоўны падарунак падчас вакацыяў.

Падаем ніжэй падборку дзіцячых лістоў з Баўгарыі ў адрас спадарыні Ірэны Каляда-Смірноў, а таксама ўражаньні ад паездкі кіраўніка зьвязу «Маладое пакаленьне» Ганны Пазюк.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



Шаноўная спадарыня Ірэна! Пішуць Вам дзьве беларускія дзяўчынкі – Жлобіч Ганна і Сакалоўская Дар'я. Мы займаемся ў школьнай мастацкай студыі ўжо доўгі час, а вось у конкурсе "Бацькаўшчыны" ўдзельнічаем толькі другі раз. На гэты конкурс мы малявалі й пісалі сачыненьні. Мы вельмі радыя, што выйгралі. І, вось, Баўгарыя, глыбокае Чорнае мора, блакітнае неба і вялізныя горы. Мы жылі ў гатэлі, дзе кожны дзень хадзілі ў басэйн, на мора, а ўвечары – на дыскатэку. Вялікі дзякуй, спадарыня Ірэна, за гэта, а яшчэ вялікі дзякуй за тое, што зьехаўшы ў другую краіну, вы не страцілі клопату аб Беларусі. Удзячныя Вам,

***ЖЛОБІЧ Ганна і САКАЛОЎСКАЯ Дар'я, г. Менск***

Аднойчы, на Новы Год, я загадала жаданьне паехаць за мяжу. І вось, дзякуючы Вам, гэтая мара збылася. Я была першы раз за мяжою, і мне ў Баўгарыі вельмі спадабалася. Тут я пазнаёмілася зь вельмі цікавымі людзьмі. Мы хадзілі ў мастацкую галерэю, батанічны сад. Кожны дзень для нас арганізоўвалі цікавыя конкурсы й віктарыны. Але, напэўна, больш усяго мяне ўразілі вадапады, якія раней я магла толькі бачыць па тэлебачаньні. Вялікі й шчыры Вам дзякуй, паважная спадарыня Ірэна! Гэтая паездка застанецца назаўсёды ў маім сэрцы.

***ШЫБКО Кацярына г. Маладэчна, 14 год***

Вы, як добрая чараўніца, якая спаўняе запаветныя жаданьні. Часам, я нават зайздросьціла сваім сябрам, якія больш забясьпечаныя і чые бацькі могуць зьездзіць на мора. Раней я нікуды не выяжджала далей Менску, таму ня дзіва, што я нават ня верыла, што еду, пакуль не стала перад цягніком "Менск – Варна". Мяне вельмі ўразілі скалістыя пагоркі й мора. Бяз Вас я ніколі не пабачыла-б Баўгарыю – краіну сонечных промняў. Вы дапамагаеце вырасьці дзецям сапраўднымі людзьмі. Я ніколі не забуду Вашай дабрыні. Спадзяюся, што калі я вырасту, стану такой-жа шчырай, дабразычлівай і паважанай, як і Вы! Жадаю Вам доўгага жыцьця і добрага здароўя, бо, менавіта, на такіх людзях, як Вы, трымаецца сьвет! З павагаю,

***КАРЭЦКАЯ Сняжана г. Маладэчна***

За мяжою я ўпершыню. І гэта застанецца ў душы на ўсё жыцьцё. Тут, у Балчыку, вельмі прыгожа і весела. Нам не даюць сумаваць. Заўсёды праводзяць розныя конурсы: спартлянды, гістарычныя віктарыны ды іншыя спаборніцтвы. Усім згуртаваньнем ходзім на мора: купаемся, загараем, зьбіраем ракавінкі ды любуемся хвалямі. Бацькі, калі даведаліся аб маёй перамозе, былі вельмі радыя за мяне. Мой тата вайсковец–прапаршчык, а мама – швачка. У сям'і я адзіная, але хочацца мець брацiка ці сястрычку. Вучуся на выдатна, скончыла сёмую клясу. А дзеці, якія паехалі з "Бацькаўшчыны", мае аднагодкі, таму зь імі вельмі лёгка сябраваць. Адпачынак удаўся!!! Вялікі дзякуй за ўсё і дай Бог Вам моцнага здароўя!

***ЖУК Сьвятлана. г. Вышні Валачок, Расея***

Перш за ўсё, дзякую Вам за падтрымку! Большасьць людзей траціць сваё багацьце для ўласных інтарэсаў. Сам я не з багатай сям'і. Бацька мой – апазыцыянер, і за гэта яго звольнілі з працы. Зарабляе толькі маці. Таму мае бацькі не змаглі-б арганізаваць мне такую цудоўную паездку.

Шчыры дзякуй Вам. Няхай Госпад Бог дабраславіць Вашую працу!

***СІЎЧЫК Вітаўт, г. Менск***

Гэта ня толькі адпачынак, а яшчэ маленькае жыцьцё, якое прынесла шмат уражаньняў і эмоцыяў. Тут, у Баўгарыі, дзеці змаглі ня толькі весела правесьці час. Нас аб'яднала агульная мова – беларуская, а таксама погляды. Нашыя кіраўнікі рабілі ўсё, каб зацікавіць нас і выхаваць у патрыятычным духу. Гэта зусім ня марная праца, таму што вынікі аказаліся жаданымі. На мой погляд такія паездкі варта рабіць. Такія паездкі – гэта ўрокі патрыятычнага выхаваньня. Побач з "Бацькаўшчынай" адчуваеш сябе сапраўдным беларусам. Гэтаму садзейнічаюць гістарычныя віктарыны, розныя мастацкія конкурсы, развучваньне беларускіх песень. Гэтыя ўсе мерапрыемствы настолькі цікавыя, што са шчырасьцю бярэш у іх удзел. Дзякуй вялікі Вам за адпачынак. Няхай анёл-ахоўца засьцерагае Вас ад усяго дрэннага.

***Марына ЯЎСЕЙЧЫК, в. Чыркавічы, Сьветлагорскі р-н***

# Баўгарскія вакацыі

*Калі Пан Бог раздаваў зямлю, баўгарын працаваў і спазьніўся, таму застаўся ні з чым. Але Бог міласэрдны, ён даў баўгарыну невялічкі кавалачак раю на зямлі...*

***Баўгарская легенда***

На нейкі час Баўгарыя стала для нас блаславенным раем-выраем, куды мы зьбеглі на некалькі тыдняў ад беларускіх ураганаў і залеваў.

Нас 44 чалавекі, 5 дарослых, астатнія – дзеці, яны пераможцы літаратурна-мастацкага конкурсу, які ладзіць вось ужо шосты год ЗБС "Бацькаўшчына". І вось ужо шосты год дзеці маюць магчымасьць адпачыць і папраўіць сваё здароўе на замежных курортах дзякуючы шчырай спонсарскай падтрымцы сп. Ірэны Каляды-Сьмірновай з ЗША.



### У госьці да сваіх

"А што гэта ў нас за сьцяг?" – пытаецца ў цягніку 10-гадовы Уладзь, паказваючы на бел-чырвона-белы штандар, які мы заўсёды бярэм з сабою. Зьдзіўляюся пытаньню, але прыгадваю, што ціпер нават у курсе гісторыі ня вучаць пра старажытныя нацыянальныя сымболі. Цярпліва тлумачу – як пятнаццаць год таму нам таксама тлумачылі, чым розьніцца чырвона-зялёны і бел-чырвона-белы сьцягі.

У першы-ж вечар па прыездзе ў Балчык расказваем пра нашую арганізацыю і яшчэ раз тлумачым, пад якім сьцягам пройдзе наш адпачынак. І як падарунак, і як выхаваўчы момант – выпадак, які здарыўся праз пару дзён: кіруемся са сьцягам на выпдроўку па горадзе, і раптам чуем з гаўбца суседняга гатэлю гучнае "Жыве Беларусь!" Усюды нашыя людзі!

### Перамаглі заўзятары

У суседнім корпусе нашага гатэлю адпачывала група дзяцей з Казані (Татарстан). Зладзілі зь імі футбольную гульню. Пляцоўка абнесеная высокай сеткай, за ёю заўзятары. Мы са сьцягам, татары без. Натхнёныя нашым прыкладам, казанскія дзяўчынкі на хуткую руку майструюць сьцяг зь сіняга і белага рушнікоў ды чырвонай майкі – колеры расейскага сьцягу. Казанцы скандуюць "Ра-се-я". На іхным месцы мы-б крычалі "Та-тар-стан". Нашыя прадулі, затое група падтрымкі так зладжана скандавала "Жыве Беларусь!", што жыхары суседніх гатэляў былі перакананыя – беларусы перамаглі.

### Пятачок мацнейшы за Тэрмінатара

Прызнайцеся, што хаця-б раз у жыцьці вам хацелася адчуць сябе каранаваннай асобай! Вось і мы падумалі, што няблага было-б. Таму зрабілі 44 кароны й на кожнай напісалі імя якога-небудзь казачнага пэрсанажа. Пасьля ўрачыста каранавалі кожнага. Як вы ўжо здагадаліся – гэта гульня. Трэба падысьці яшчэ да двух-трох каралёў ці каралеў і, задаючы пытаньні, адказаць на якія можна толькі "так" ці "не", высьветліць сваю каралеўскую асобу. Ну і добрыя-ж каалі́цы атрымаліся! Маўглі, Чабурашка, Кашчэй Несьмяротны; Барбара Радзівіл, Мікі Маўс, Пэпі – Доўгая Шкарпэтка; Баба Яга, Гулівер і Дыяніс. Палітыкі пазайздросьцілі-б. Пасьля гульні ніхто не хацеў здымаць свае кароны. А праз некаторы час да мяне падбег Андрэйка (Дыяніс) і радасна абвясьціў, што ў гульні ў пінг-понг Пятачок перамог Тэрмінатара!

### Прыгадай сьмерць "Тытаніка"
### Герогліфы падкажуць!

"Аднаногія крэслы сумуюць бяз вас! Сядзь на тое, што пасінела ад злосьці,

## Наша фанатэка

# Рок-зоркі PARTYZONEскай рэспублікі

*"Partyzone" – "Сьмерці няма", Мн., 2005, "БМАgroup"*




Бадай, не памылюся, калі скажу, што самым шчасьлівым годам для гурта "Partyzone" быў 2002: тады яны, яшчэ нікому невядомы калектыў, заваявалі галоўны прыз знакамітага фэстывалю "Басовішча", трапілі ў шэраг найпрэстыжнейшых музычна-выдавецкіх праектаў (зборныя кружэлкі "Hardcoreманія: чаду!", "Hard Life – Heavy Music", "Viza Незалежнай Рэспублікі Мроя"), выдалі свой поўнафарматны альбом "Трэба рабіць", прэзэнтацыя якога двойчы трансьлявалася ў запісе па першым канале Беларускага тэлебачаньня.

Яны не маўчалі й пазьней, трывала прапісаўшыся сярод самых прыкметных зорак ("Крама", "Ulis", "N.R.M.", "Стары Ольса", "P.L.A.N.", "Deadmarsh", "Tesaurus") нават на буйнейшым беларускім рок-фэсьце "Генэралы айчыннага року", які з поўным аншлягам прайшоў у 2004 годзе ў сталічным Лядовым палацы. Але час ішоў, а новых альбомаў усё не было. Самых пэсымістычныя перасьцярогі ўмацоўвала яшчэ й інфармацыя, што гурт нібыта так і не скарыстаў выйграны прыз таго лёсавызначальнага "Басовішча-2002", які даваў ім шанец бясплатна запісацца ў адной зь лепшых польскіх студыяў. "Чаму?" – пыталіся адныя. "Ды няма чаго запісваць", – упэўнена сьцьвярджалі другія. Маўляў, натхненьне ад удалага закосу пад "Rammstein" скончылася, а сваіх ідэяў няма, вось і наступіла творчая сьмерць.

І усё-ж пільныя фэны беларускага року цьвяроза спасьцігалі, што заўчасная роспач дамарослых прарокаў не мае ніякіх падставаў, бо гурт не абмінуў сваім удзелам ніводнага выпуску штогадовай мэтал-складанкі "Hard Life – Heavy Music", прапаноўваючы туды кожны раз усё новыя й новыя песьні, а іхны трэк на эпахальным CD-альбоме "Генэралы айчыннага року" (усё самае лепшае з нашых краёў у 80-х, 90-х і 00-х гадох) меў вельмі сымбалічную назву – "Сьмерці няма".

І вось перад намі альбом з такою-ж назвваю. Дарэчы, запісаны ён у той самай знакамітай беластоцкай студыі "Hertzz" (бубны) ды ў менскай "Iron Gleb" (вакал, гітары, бас і клявішныя), таму за якасьць прадукту можна не хваляваца.

Прызнацца, слухаючы фрагмэнтарна новы "Partyzone" на розных зборніках і канцэртах, я шчыра радаваўся, што Бог натхніў мяне ўбухнуць свой прададзены "Volkswagen" у выпуск іхняга першага альбому "Трэба рабіць", бо ўсе яны цяпер сьцьвярджаюць, што якасьць запісу там была недастатковая. Ніхто чамусьці не думае пра Божае натхненьне саміх твораў, якое грэх было-б змарнаваць. Цяпер, калі дыск фатальна зьнік з паліцу музычных крамаў, калі я вярнуў свае ўклады, а "Partyzone" стаў адною з самых прыкметных рок-камандаў Беларусі, хай зласьліўцы гавораць што заўгодна, бо беларуская "Rammstein" з усьмешкай на твары хоць можа й ня будзе, але БЫЎ. Асабіста я баяўся іншага: ці зможа мяне так усхваляваць новы альбом калектыву?

Па шчырасьці, асобныя песьні мяне дык выразна не хвалявалі, бо "Partyzone" у іх быў адчувальна іншы. Ня горшы, але іншы. Больш стала нейкага псыхадэлічнага нэрву, глябальнага напружаньня, якое ўпадабалі такія адмыслоўцы, як рэдактар менскай "Музгазэты" Алег Клімаў і нават мой сябра, журналіст Анатоль Мяльгуй; разам з тым паменела той бесшабашнай адвязкі, грунтаванай на прыколе, праз якую дах зьязджаў у кожнага, хто на хвіліну апранаў навушнікі (прыкіньце: "бяру будзільнік, кідаю ў халадзільнік – нашто мяне абудзілі?"). З гэтай прычыны лэйбл "Prynamsi Records" (кампаньён "БМАgroup" па першым альбоме) адмовіўся далей удзельнічаць у гэтым праекце, і Віталь Супрановіч сам спрад'юсаваў і выезд у Польшчу на запіс, і далейшыя сэсіі гурта ў менскіх студыях. Затое, калі праца была скончаная, стала зразумела, што намаганьні былі недарэмныя, а звышасьцярожным застался толькі шкадаваць.

З дванаццаці кампазыцыяў новага альбому хіба трэць паспела больш-менш раскруціцца ў розных суполных праектах: "Парай дарогу", "Смутак", загалоўная "Сьмерці няма", на шматлікіх канцэртах і ў гіт-парадах прывабілі ўвагу публікі "Хлопчык зь сеткі", "Маё сэрца" (апошняя запісана дуэтам з Русяй, пра якую мы пісалі сёлета ў траўні). Пра адсутнасьць рэпэртуарнага дэфіцыту й здаровы творчы імпэт сьведчыць і тое, што "Partyzone" вырашыў не ўключаць у альбом свой знакаміты кавэр "ПартызОнская" паводле амаль аднайменнай энэрэмаўскай песьні. Канцэпцыя альбому апынулася важней за банальнае піхалава ўсяго назапашанага толькі дзеля паказу сваёй творчай жыцьцяздольнасьці. "Partyzone" здольны, бо "Сьмерці няма".



Асабліва цікава мне было назіраць паглыбленьне лідэра калектыву Яўгена Цылікава (аўтара ўсіх тэкстаў і музыкі) у стыхію беларускай этнічнай сымболікі. Памятаеце ягоныя пошукі Ярылы ў папярэднім альбоме? Дык вось цяпер ён знайшоў яго: "Я – Ярыла! Тут мой край,/ Я – пагроза дзікіх зграй,/ Тут вітаньне сябрам, ворагам – магіла!" Гэта зь песьні "Сто стагодзьдзяў".

Безумоўна, Цылікава лёгка можна папракнуць у стылістычнай нявытрыманасьці пэўных тэкстаў, у лексычнай беднасьці (напрыклад, "сеткі правадоў" у "Хлопчыку з сеткі" лепей было-б, безумоўна, замяніць "дратамі", а "ноч мяртва" зь песьні "Ляці за край" нагадвае проста кальку з расейскага стылістычнага абароту). Але што патрабаваць ад людзей, якія родную мову вывучалі ў школе менш за замежную. Затое як выразна зьзяе з твораў Яўгена Цылікава энэргія прагі вяртаньня!

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

***На здымках: "Partyzone" на тым самым перможным "Басовішчы"; "Partyzone" ў беларускім лесе.***



## Баўгарскія вакацыі

азірніся – і пабачыш літару, якой называеш сябе!" Першае такое заданьне атрымліваюць усе каманды, кожная – сваё. Разгадаўшы сэнс напісанага, можна знайсьці цыдулку з наступнай шыфроўкай. Іх мусіць быць пяць, і ў апошняй паказаны шлях да перамогі – Салодкага дрэва, дзе схаваныя прызы – мех з ласункамі.

Добра, што гатэльны пэрсанал і работнікі прылеглых установаў намі былі папярэджаныя пра гульню. Бо тут усчаўся буран, стыхійнае бедства, нашэсьце... дзякуй Богу, не сапраўдных барбараў. Гучныя воклічы, шпаркі бег, а пасьля пільнае абсьледаваньне пэўнага аб'екта. Часам – посьпех, часам – параза. Баўгарскія кіраўнікі перажывалі за нашых дзяцей не менш чым мы, хто ведаў – да памагаў шукаць.

Думаю, надоўга застануцца ў памяці "бісэрнае дрэва", "родная лужына і калючы сад", "блакітнае вока" і "небясьпечныя ананасы"!

### Сваю дрыгву - з сабою

Сьмешна, але выявілаеца так, што беларусы заўсёды балота знойдуць. Нават калі паедуць адпачываць туды, дзе лазурнае мора б'ецца аб скалы колеру тэракоты, а ў невялічкай бухтачцы прытаіўся пясчаны пляжык. Гэты чароўны куточак паказаў нам кіроўца, які вёз нас з экскурсіі, не паказаў – падарыў, настолькі хораша і нязвычна там было. Балота чакала нас адразу за пляжам і, як павінна, было з прэснай вады. Вось ён наш беларускі вырай! Кіроўца-ж цешыцца з таго, як мы цешымся. "Вось-бы сустрэцца нам раней, я-б вас запрасіў у сваю родную вёску, гэта ўжо ў Румыніі, там жыве маці, якія там у нас застольлі, якое віно!" Мы й сапраўды пашкадавалі, што гэта быў перадапошні дзень нашага адпачынку.

### Купляйце беларускае!

На падыходзе да мысу Калеакры - месца, якое карыстаецца папулярнасьцю ў турыстаў – бабулькі гандлююць карункамі, плеценымі хусткамі, шкарпэткамі. Божухна, яны-ж зусім як нашыя, гэтыя сурвэткі ды шкарпэткі! Такія самыя ўзоры!

– Купляй, дзетачка, *такое толькі ў Баўгарыі знойдзеш!*

– Ды дзе там, – зь іранічнай усьмешкаю прамаўляе наш доктар, маўляў, ягоная бабуля з Ружанаў ня горш пляце.

Сэнс гэтай ўсьмешкі бабульцы застаўся так і не зразумелы, яна пакрыўджана падціскае вусны.

### Здаровы патрыятызм

Баўгары ганарацца тым, што калісь тэрыторыя іхняй дзяржавы мела выхады да трох мораў – Чорнага, Эгейскага і Мармуровага. Нават майкі выпусьцілі з выявай мапы і надпісам "България на три морета". Вялікае Княства таксама калісьці было ад мора да мора, аўтаматычна ўсплывае ў маёй галаве. Ёсьць і майкі з альфабэтам. Хараша глядзіцца, хачу набыць. Прыглядаюся – не хапае "юсоў", "псі", "ксі" і некаторых іншых літар, затое ёсьць "ю" і "я"... Так альфабэт баўгарскі, а не стараславянскі. Вядома, кожны, як можа, прапагандуе сваю краіну, баўгары – праз кірыліцу: "хоць і карыстаемся "юсамі", затое Кірыла і Мятод – нашыя", – так, адчуваецца, хочуць сказаць. Хоць, здаецца, ураджэнцы Салонікаў Кірыл зь Мятодам ніколі на тэрыторыі сучаснае Баўгарыі не жылі. Спрачацца ня будзем.

*Мы ад'яжджаем. Ня хочацца.* Цяпер толькі ў сьне можна пабачыць абрысы белых скалаў, што велічна ўзвышаюцца над невялічкімі дамкамі з чырвонай дахоўкай, якія ярусамі разьмясьціліся на схіле прыроднага амфітэатру. Не будзе хапаць паху вараных мідый, што разносіўся па вечаровых вуліцах. Запомніцца смак таратора, гювеча, імам баялды ды салодкай пахлавы. Запомняцца зацішныя куточкі батанічнага саду, дзе так цудоўна бавіць час у сьпёку, дзе нечакана можна сустрэць гістарычныя рэліквіі – каменны крыж, мармуровы трон, велічэзную амфару, – паслухаць шум маляўнічага вадаспаду, памарыць ля сьценаў замку румынскай каралевы Марыі.

Зь няспраўджаных плянаў – наведваньне музэю Ўладзіслава ІІ Варненчыка (сына Ягайлы), які загінуў у бітве пры Варне ў 1444 годзе. Будзе нагода яшчэ раз наведаць гэты куток. А і надта-ж карціць зьезьдзіць у госьці да таго кіроўцы ў вёску, балазе, ёсьць ягоная візытоўка.

У цягніку дзеці прыціхлі, сумуюць. Моцна пасябравалі між сабою за час адпачынку, як-жа цяпер расставацца? І як расстацца з такім цёплым і ласкавым морам? І як цяпер ня мець тых пачуцьцяў, што ўзьнікаюць, калі робіш нешта разам: удзельнічаеш у гульнях, конкурсах, купаешся, сьпяваеш і нават ясі? Як ехалі туды, спачатку таксама сумавалі. А цяпер сум іншы.

Што-ж, бывай, Баўгарыя, бывай, Балчык, бывай, Чорнае мора! Мы кінулі манеткі, каб абавязкова вярнуцца!

***Ганна ПАЗЮК***

